ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

26 МАЯ 1995 г. № 21 (3793) Кошт 400 руб.

## БЕЛАРУСІ

**Над Радзімай ноч Савы —**
**цень драпежны ўпаў на пожні...**
**— Хто адстоіць твае правы,**
**мой народ — хіжых сіл заложнік?**

**Чуеш звон з тагасветных лёх? —**
**пад Пагоні харугвы стала**
**бараніць, што нам зычыў Бог,**
**раць ад Вітаўта да Купалы...**

**Рана келіх хаўтурны піць**
**па Айчыне, душой збалелай,**
**покуль небам скрозь ноч ляціць**
**Бусел — сцяг наш бел-чырван-белы!**

Эдуард **АКУЛІН**

## СУАЙЧЫННІКАМ

**Як цяжка жыць нашчадкам,**
**калі продкі**
**У спадчыну пакінулі прыгон...**
**Дзяды мае, бацькі, дзядзькі і цёткі,**
**Прыміце нізкі рабскі мой паклон.**

**...Рахманыя, пакорныя, нямыя,**
**Вачыма праглядзеўшы дол руды...**
**Ніхто вас ад зямлі ўжо не адыме —**
**З яе ўзышлі і сыдзеце туды...**

**О рабскі род зняслаўленай Айчыны!**
**Навошта ж і мяне ў свой радавод**
**Абралі вы!? —**
**каб я адчуў плячыма**
**Не крыл узвевы,**
**а — халодны пот...**

**Паклон... паклон... —**
**іду за вашым плугам...**
**Ніжэй... ніжэй... —**
**даў Бог ваш плён сабраць...**
**— Давай!.. Давай!.. —**
**няшчадна свішча пуга...**
**— Сынок! Сынок!!.**
**— Да ты ошиблась, мать...**

Леанід **ГАЛУБОВІЧ**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Паважаныя прыхільнікі "ЛіМа"!**

Не зважайце на тое, што некалькі апошніх нумароў нашай газеты прыйшлі да вас са спазненнем. "ЛіМ" выходзіў і будзе выходзіць, а цяжка сёння ўсім нам. Падтрымайце "ЛіМ", падпішыцеся на "ЛіМ", будзьма разам у змрочныя гадзіны і тады — выжывем!

**Кошт падпіскі**

ў Мінску: на 3 месяцы — *15 тысяч рублёў*, на 1 месяц — *5 тысяч рублёў*; па Беларусі: на 3 месяцы — *12 тысяч рублёў*, на 1 месяц — *4 тысячы рублёў*.

**Наш індэкс — 63856.**



*Элегія* *Фота А. МАЦЮША*

*Два нумары "ЛіМа", якія так і не пабачылі сваіх чытачоў, ляжаць недзе неаддрукаваныя ў "Беларускім Доме друку". Ужо два тыдні лімаўцы штодзень адказваюць на дзесяткі тэлефонных званкоў з аднымі і тымі ж пытаннямі: "Што здарылася? Дзе "ЛіМ"? Ці не зачынілі вас?" Дзякуй, што не забываеце, што турбуецеся. А прычына затрымкі знешне простая: з-за даўгоў прыпыніла сваю дзейнасць выдавецтва "Полымя", праз якое вяліся ўсе фінансавыя разлікі "ЛіМа" і іншых беларускамоўных выданняў. Дзяржава, якая "знайшла" дзесяткі (сотні!) мільярдаў рублёў на фінансаванне рэферэндуму, розных святаў, не можа знайсці ўсяго 500 мільёнаў рублёў, каб аднавіць выпуск "ЛіМа", "Культуры", "Настаўніцкай газеты", "Нашага слова", "Голаса Радзімы" і іншых газет і часопісаў. На дзень, калі пішуцца гэтыя радкі, невядома, ці выйдзе і трэці (з нявыйшаўшых) нумар нашай газеты. Той, хто быў у падобным становішчы, пэўна, ведае, як цяжка працаваць без надзеі, што цябе пачуюць, прачытаюць, як цяжка крычаць у пустэчу... І тым не менш — мы працуем. На сёння мы не вольныя, мы дзяржаўнае, бюджэтнае выданне, якое вымушана прымаць умовы, што дыктуе гэтая дзяржава...*

## АДСТАЎКА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі 18 траўня падпісаў Указ аб вызваленні В. Шаладонава ад пасады Генеральнага пракурора "па асабістым жаданні". Тым самым яшчэ раз пацверджана, што дыму без агню не бывае, і тое, што зусім нядаўна называлася беспадстаўнымі чуткамі і абвяргалася, стала яваю. Прэзідэнт планамерна расстаўляе сваіх людзей на галоўныя пасты дзяржавы. Хто наступны? Мяркуючы па тых самых чутках, што таямнічым чынам выходзяць з прэзідэнцкай адміністрацыі, — сякера павісла над галавой старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні, над галавой старшыні Нацбанка С. Багданкевіча... Парламента на сёння ў нас няма і ўся ўлада практычна сканцэнтравана ў руках аднаго чалавека, які дзейнічае, здаецца, не заглядваючы ў Канстытуцыю.

## МЕРКАВАННЕ ТЫДНЯ

"Канчатковыя лічбы рэферэндуму выглядаюць празмерна ўнушальнымі і могуць тлумачыцца па-рознаму: у чарговы раз рашаючую ролю сыгралі галасы сельскіх выбаршчыкаў, якія, як і на прэзідэнцкіх выбарах, насуперак звычайнай для сябе палітычнай пасіўнасці хадзілі галасаваць "за" ледзь не цэлымі вёскамі. Не меншую актыўнасць праявілі прыхільнікі Лукашэнкі ў гарадах. У той жа час многія з тых, хто расчараваўся ў прэзідэнце альбо ніколі не ачароўваўся, проста не пайшлі да скрыняў для галасавання. Але ўсё ж вынікі плебісцыту надзіва адрозніваюцца ад дадзеных усіх сацыялагічных апытанняў. Ствараецца ўражанне, што нехта перастараўся..."

*(З артыкула Аляксандра СТАРЫКЕВІЧА "Беларускія выбаршчыкі падпісалі прыгавор будучаму парламенту", "Известия", 23 траўня г. г.)*

## УСТАНОЎКА ТЫДНЯ

Мяркуючы па паведамленні Белінфарма, прэзідэнт Беларусі рашуча ўзяўся за "запуск заводаў". 20 траўня ён правёў чатырохгадзінную нараду з кіраўніцтвам Адміністрацыі прэзідэнта, Кабінета Міністраў, Нацыянальнага банка і Гаспадарчага суда, на якой былі разгледжаны пытанні стабілізацыі фінансава-эканамічнай сітуацыі ў краіне. У духу "лепшых часоў", да якіх вяртаецца Беларусь, прэзідэнт "па ўсіх разгледжаных пытаннях даў канкрэтныя даручэнні і запатрабаваў узмацніць адказных службовых асоб..." Ход выканання сваіх даручэнняў (установак) прэзідэнт мае намер разгледзець на нарадзе 8 чэрвеня. Як знаёма нам усё гэта з ранейшых часоў! Прыгадваецца і самы папулярны тагачасны газетны загаловак: "А воз і зараз там..."

## ЗаДУМА ТЫДНЯ

Амаль аднагалосна прыняла Расійская Дума прапанову лідэра праімперскай партыі "Расійскі агульнанародны саюз" С. Бабурына правесці рэферэндум аб стварэнні адзінай федэрацыі Расіі і Беларусі. "Адзіная федэрацыя Беларусі і Расіі", якой бы прыгожай назвай яна ні была аздоблена, на справе будзе азначаць адно — далучэнне нашай краіны да РФ на правах чарговага суб'екта федэрацыі — такога ж, як, напрыклад, Калмыкія ці Башкірыя", — лічыць аглядальнік "Звязды" Валянцін Жданко, і дадае: "Для беларускага прэзідэнта надыходзіць момант ісціны. У выпадку, калі ён ухваліць працэс, распачаты Бабурыным і Думай, — няма ніякай патрэбы ламаць коп'і ў перадвыбарнай ліхаманцы, сутаргава мяняць сімволіку, змагацца з Канстытуцыйным судом, рэфармаваць сістэму ўлады... і законы, і сімвалы, і суд, і армію — усё мы атрымаем гатовае. Зрэшты, і прэзідэнцкія выбары ў нас тады адбудуцца ўжо на наступны год".

## ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ ТЫДНЯ

З 22 траўня Нацбанк устанавіў новыя стаўкі рэфінансавання банкаў у памеры 12 працэнтаў, мінімальную стаўку па тэрміновых дэпазітах — 15 працэнтаў, па ўкладах да запатрабавання — 5 працэнтаў. Лозунг "Захоўвайце грошы ў ашчадных банках!" зноў састарэў. Стаўкі заніжаны, долар "стаіць", заробкі "замарожаны" і не выплачваюцца, затое цэны растуць.

## ПРОСЬБА ТЫДНЯ

Як паведаміў БелаПАН, рабочыя аб'яднання "Гомсельмаш", якое практычна не працуе ўвесь апошні год, звярнуліся да прэзідэнта Беларусі з просьбай аказаць садзейнічанне ў выдзяленні крэдытаў і накіраванні 75 працэнтаў выручкі для набыцця абаротных сродкаў і выплаты заробку... Падобныя просьбы на адрас прэзідэнта і Кабінета Міністраў ідуць цяпер з усіх канцоў краіны. Саюз беларускіх пісьменнікаў таксама звярнуўся да М. Чыгіра з просьбай разгледзець катастрафічную сітуацыю, што склалася сёння з беларускім друкам і беларускай кнігай і аказаць фінансавую падтрымку выдавецтвам "Мастацкая літаратура" і "Полымя", што знаходзяцца практычна на мяжы закрыцця. Як і многія беларускамоўныя выданні, што фінансуюцца праз выдавецтва "Полымя"...

## ЗНАХОДЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Да якіх толькі абсурдных сітуацый не прыводзіць адсутнасць грошай: у адным з калгасаў Віцебскай вобласці заработную плату калгаснікам выдавалі... бычкамі з фермаў гаспадаркі. Але была тут і своеасаблівая хітрасць: атрыманы "заробак" калгаснік адразу мог прадаць свайму калгасу. І атрымліваў грошы. Бо ў гаспадаркі грошай на зарплату не было, а вось на закуп жывёлы ад насельніцтва — дзяржава дала...

*З нагоды*

# ХРЫСТОВЫ ЗНАК НЕ МОЖА ЗНІКНУЦЬ

Калі ў выніку кастрычніцкага путчу (так званай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі) бальшавікі захапілі ўладу, яны апынуліся ў досыць складаным становішчы, бо аказаліся няздольнымі практычна рэалізаваць свае папулісцкія лозунгі "Мір — народам!", "Зямля — сялянам!", "Уся ўлада Саветам!". Народ не атрымаў ні міру, ні зямлі, ні дэмакратыі. Каб адцягнуць увагу народа ад яго гаротнага стану, каб закрыць пытанні перш, чым яны будуць пастаўлены, бальшавіцкімі ідэолагамі была распрацавана і пачала здзяйсняцца акцыя пад назвай "план манументальнай прапаганды". Яна мела мэтай знішчэнне манументальных сімвалаў расійскай гісторыі і культуры (храмы, славутыя помнікі), ліквідацыю асвечанай стагоддзямі расійскай дзяржаўнай сімволікі. Замест знішчанага, зліквідаванага прапаноўвалася новая атрыбутыка: у кожным горадзе — помнік Марксу-Энгельсу ды іншым "святым і прарокам" камуністычнага "пантэона", на кожнай шыльдзе — серп-молат і чырвоная пентаграма. Цікава, што ў якасці эмблемы Чырвонай Арміі ледзь не зацвердзілі пяцікутную чырвоную зорку са свастыкай усярэдзіне. Прынамсі, такая ідэя сур'ёзна абмяркоўвалася.

"План манументальнай прапаганды" быў цудоўна прадуманай палітычнай акцыяй. Дзякуючы яго паспяховай рэалізацыі, дасягалася адначасова некалькі мэт. Ідэалогія апанентаў, пабудаваная па трыядзе "праваслаўе-самадзяржаўе-народнасць", губляла матэрыяльнае апірышча (які сэнс заяўляць: "За намі — тысячагадовая Расія!", калі знішчаны сведчанні расійскай велічы?). Адначасова ў простага люду ствараласяілюзія вялікай перабудовы ў імя светлай будучыні, на некаторы час дожыўся крэдыт даверу ўладзе. Праўда, калі масы пачыналі займацца палітычнай самадзейнасцю, спрабавалі скарэктаваць афіцыйныя лозунгі пад свой інтарэс (скажам, захаваўшы "Уся ўлада Саветам", удакладніць — "Саветы без камуністаў!"), гэта канчалася праліццём народнай крыві (падаўленне сялянскіх выступленняў на Тамбоўшчыне, Кранштацкага "мяцяжу").

Гледзячы на тое, як пасля "рэферэндуму" сп. Лукашэнка шпарка ўзяўся мяняць гербы і сцягі (дарэчы, ігнаруючы пры гэтым Закон; ёсць юрыдычная працэдура: прыняцце Закона аб дзяржаўных сімвалах Вярхоўным Саветам, распрацоўка графічнага, каляровага і аб'ёмнага эталонаў, зацвярджэнне эталонаў, і толькі пасля гэтага сцяг і герб становяцца дзяржаўнымі), пераконваешся, што гісторыя сапраўды мае тэндэнцыю да паўтораў. Зноў — бальшавікі, зноў — "манументальная прапаганда", замест антыкрызісных праграмы!

Зрэшты, істэрычнасць, якой суправаджаецца змена сімволікі, непрыхаваны цынізм прэзідэнцкай каманды (многія газеты паведамілі, што сп. Ціцянкоў дэманстратыўна разарваў бел-чырвона-белы сцяг на даху "прэзідэнцкага палаца", сцяг, які юрыдычна па-ранейшаму застаецца дзяржаўным) сведчаць, што "перамоўцы" адчуваюць сябе не вельмі ўпэўнена. Прэзідэнт быццам байца. Байца новага парламента, байца непрадказальнага развіцця падзей. Наша эканоміка даўно ў заняпадзе. Аднак раней, паказваючы рукой на бел-чырвона-белы сцяг над Домам урада, можна было ўсё валіць на дэмакратаў. Яны і "краіну развалілі", і "карупцыю развалі"! Змена сцяга адбылася — ці адбудуцца змены ў жыцці краіны?

Уражанне такое, што будзе яшчэ горш...

Сёння прэзідэнцкая каманда трактуе вынікі "рэферэндуму" і першага тура выбараў як паразу ідэй БНФ, ідэй Адраджэння і Незалежнасці. З фармальнага гледзішча гэта нібыта так. Насельніцтва сапраўды прагаласавала (не будзем пакуль кранаць тэму парушэння заканнасці ў часе выбараў і рэферэндуму) так, як хацелася сп. Лукашэнку. Але калі, зыходзячы з такой логікі, правесці гістарычную паралель паміж падзеямі ў сённяшняй Беларусі і ў Палесціне амаль двухтысячагадовай даўніны, дык атрымаецца, што ўсенародны рэферэнум, у выніку якога Сына Божага паслалі на крыж, трэба лічыць паразай хрысціянскай ідэі. Але хрысціянская ідэя жыве і сёння. Гэта вечная ідэя. Здаецца, няма ў свеце чалавека, які б мог гэты факт аспрэчыць...

На тарчы вершніка Пагоні — Хрысціянскі крыж. У гісторыі Еўропы былі выпадкі, калі герб з Крыжам замянялі гербам з чырвонай пентаграмай. Гэту абразу зведалі пры камуністах венгры, славакі, летувісы і мы — беларусы. Але, аднойчы з'явіўшыся на гербе, Крыж ужо не можа знікнуць з яго назаўсёды. Хрыстовы знак заўжды вяртаецца. Трэба толькі захоўваць Веру.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# У ВАС ЁСЦЬ ЧАС СПЫНІЦЦА

Спадар Прэзідэнт!

Задушаная інфармацыйным голадам і аднабокай інфармацыяй Беларусь правяла першы ў сваёй гісторыі агульнанародны рэферэндум. Вынік — вядомы, наступствы — непрадказальныя. Вы атрымалі перамогу! Перамогу над кім?

Мы далёкія ад ацэнкі адказаў на ўсе пытанні рэферэндуму, ведаючы, як праходзіла галасаванне, калі большасць галасуючых не разумела, што ад іх патрабуецца. Ад заблытаных хлуслівай інфармацыяй людзей цяжка было чакаць іншага выніку.

Мэта нашага звароту да Вас — праясненне Вашай пазіцыі па другім пытанні, а іменна — па пытанні дзяржаўнай сімволікі.

Спадар Прэзідэнт!

Чаму народу Беларусі не было растлумачана Вамі асабіста, падкантрольнымі Вам сродкамі масавай інфармацыі, у якую суму вылецца замена дзяржаўнай сімволікі? Чаму народу не было прапанавана выбару: альбо новая дзяржаўная сімволіка, альбо пабудаваны тысячы кватэр для тых, хто мае ў іх патрэбу?

Чаму не спыталіся ў настаўнікаў і ўрачоў: альбо павышэнне, і істотнае, зарплаты, альбо замена вершніка з канём?

Чаму не спыталіся і не растлумачылі пенсіянерам, што эканоміка, даведзеная да краху, няздольная вынесці і павышэнне пенсій, і змену дзяржаўных сімвалаў?

Чаму Вас, як кіраўніка дзяржавы, мала хвалюе, што на патрачаныя на пустую справу грошы можна стварыць дзесяткі тысяч рабочых месц, забяспечыць лекамі нашы бальніцы, вырашыць многія беды Чарнобыля?

Паводле папярэдніх падлікаў, замена дзяржаўнай сімволікі абыдзецца народу Беларусі ў 1,5 трыльёна "зайцаў". Дзеля чаго робяцца такія каласальныя затраты, калі палова насельніцтва краіны сёння знаходзіцца або за рысай беднасці, або побач з гэтай рысай? 46% насельніцтва краіны выказаліся за змену сімволікі, 54% не вызначыліся або сказалі не. Большасць з іх — людзі маладога або сярэдняга ўзросту. Будучае за імі!

Спадар Прэзідэнт!

Пакуль гэтыя грошы не ўзяты з народнай кішэні павышэннем цэн і падаткавым "беспределом", у Вас ёсць час спыніцца! Дзяржаўнай мудрасці і асабістай мужнасці вымагае ад Вас вырашэнне гэтага пытання з пазіцыі Здаровага Сэнсу.

**ВЫКАНКАМ РАДЫ ПАРТЫІ ЗДАРОВАГА СЭНСУ**

# БЯСПЕКА ЕЎРОПЫ: АСПЕКТЫ ПРАБЛЕМЫ

У Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя "Новыя незалежныя дзяржавы ў сістэме еўрапейскай бяспекі". Гэта ўжо трэцяя падобная сустрэча ў сталіцы Беларусі, што праводзіцца пад эгідай Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад". Рэалізуючы праграму знешнепалітычнай дзейнасці, НЦСІ "Усход—Захад" і яго Інстытут незалежных даследаванняў арганізаваў і правёў шэраг навуковых міжнародных семінараў, "круглых сталоў" і канферэнцый з удзелам вядомых замежных палітыкаў і экспертаў — спецыялістаў па пытаннях рэфармавання краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, што пазбавіліся камуністычнага ўладарання, інтэграцыі Беларусі ў сусветную супольнасць.

Адным з прыярытэтных напрамкаў у дзейнасці НЦСІ з'яўляецца праблема еўрапейскай бяспекі. Рэспубліка Беларусь, якая чатыры гады назад прыняла Дэкларацыю аб суверэнітэце, заявіла ўсяму свету пра свой міралюбны знешнепалітычны курс і імкненне да без'ядзернага статуса.

Міжнародная канферэнцыя, пра якую ідзе гаворка, сабрала шмат прадстаўнічых асоб з розных краін свету: палітыкаў, палітолагаў, навукоўцаў, дыпламатаў і г. д. Перад Домам афіцэраў, дзе яна праходзіла, можна было ўбачыць машыны з дыпламатычнымі сцяжкамі Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы, Ізраіля, іншых краін блізкага і далёкага замежжа. Сярод удзельнікаў канферэнцыі былі, напрыклад, такія асобы, як Арнсвальд Ульрых, доктар Мангеймскага універсітэта (Германія), Баўэнс Вернер, адказны супрацоўнік Упраўлення інфармацыі НАТА, Бурые, ваенны аташэ пасольства Францыі ў Беларусі, Вадзім Грачаннікаў, прэзідэнт Атлантычнага савета Украіны, Оліфанг Крэйг, старшы аналітык па пытаннях СНД і Прыбалтыкі Міністэрства абароны Вялікабрытаніі і інш. Аўтарытэтна на канферэнцыі была прадстаўлена і Беларусь. Дастаткова назваць першага намесніка міністра замежных спраў Валерыя Цапкалу.

Удзельнікі канферэнцыі праслухалі шэраг цікавых дакладаў, якія закранылі дзве асноўныя тэмы: "Асаблівасці сучаснага этапа народных адносін і змены ў архітэктуры еўрапейскай бяспекі" і "Падыходы асобных дзяржаў да праблем еўрапейскай бяспекі: нацыянальныя дактрыны і глабальныя каштоўнасці".

Сярод дакладаў, якія выклікалі ажыўленую дыскусію, варта назваць паведамленні, з якімі выступілі В. Цапкала, В. Баўэнс, В. Кузняцоў, член Савета калектыўнай бяспекі (Расія) і некаторыя іншыя.

Другі дзень удзельнікі канферэнцыі прысвяцілі працы па секцыях па такіх асноўных напрамках, як "Ваенна-стратэгічная перааарыентацыя краін Балтыі і Усходне-цэнтральна-еўрапейскага рэгіёна і праблемы забяспячэння стабільнай бяспекі ў рэгіёне былога СССР", "Знешнепалітычная дактрына Расіі і праблемы ўзаемааднасін з Украінай і Беларуссю" і інш.

**М. З.**



# МЫ НЕ КАЖАМ: "БЫВАЙ, "ПАГОНЯ"!", МЫ КАЖАМ: "ДА ХУТКАЙ СУСТРЭЧЫ!"



*Фота Віт. АМІНАВА*

Nota bene

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ПАЛІТЫКА

У апошні час назіраецца новае ўзмацненне палітычнай барацьбы. Узрастае проціборства грамадска-палітычных сіл. Як у гэтай сітуацыі дзейнічаць інтэлігенцыі — якой прытрымлівацца пазіцыі, за што змагацца, чаму і каму памагаць або процідзейнічаць? На практыцы маюць месца розныя падыходы, у наяўнасці стракатасць крытэрыяў, рэкамендацый, пазіцый.

І ўсё ж ёсць тое, што можа аб'яднаць, калі не ўсіх, то большасць і ў такіх сітуацыях. Мы павінны — і правыя, і левыя, і тыя, хто займае нейтральныя пазіцыі — усведамляць надзвычайную важнасць у існуючай сітуацыі спынення процістаяння ў грамадстве. Задача інтэлігенцыі — усімі даступнымі сродкамі садзейнічаць гэтаму.

Барацьба азартная, яна робіць чалавека жорсткім, праціўнік здаецца ўжо нечалавекам, яго не шкада. Тым больш, калі ён гатовы на ўсё. Тым не менш, і ў гэтую барацьбу інтэлігенцыя павінна ўносіць, так бы мовіць, міратворчую ношу, каб яна вялася без жорсткасці, без кровапраліцця.

Вядома, ісці такім шляхам не проста, але гэты шлях дастойны павагі простых людзей.

Культура палітычнай барацьбы — надзвычай важны фронт намаганняў інтэлігенцыі. Яна ў нашым хворым грамадстве на самым нізкім узроўні. Галоўнае — перамяніць акцэнты ў ёй: не супраць каго, а за што?

Сёння і правы і левы лагеры прасякнуты духам нянавісці адзін да аднаго. Выратавальная, думаецца, толькі цэнтрысцкая, узважаная пазіцыя, носьбітам якой можа стаць перш за ўсё інтэлігенцыя. Пры гэтым, сутнасць і прызначэнне цэнтрызму трэба бачыць у наступным. Па-першае, цэнтрысты зусім не "балота". Гэта хутчэй за ўсё тыя, хто кіруецца здаровым розумам, імкнецца сур'ёзна, глыбока і ўсебакова прадбачыць наступствы прымаемых рашэнняў. Па-другое, гэта не згодніцтва, не канфармізм, а цвёрдая, паслядоўная пазіцыя. Патрэцяе, цэнтрызм адмаўляе ідэалогію рэваншу. Ён змагаецца за максімальны ўлік і ўзгадненне інтарэсаў усіх удзельнікаў гістарычнага працэсу, імкнецца праявіць клопат аб усіх без выключэння пластах насельніцтва на базе ўзважанай і доўгатэрміновай палітыкі. Цэнтрысцкая свядомасць мяркуе крытыку крайнасцей у палітыцы, рашучую адмову ад догмаў і аджылых тэорый, не менш рашучую падтрымку новага, што нараджаецца. Яна імкнецца ва ўсім праявіць пачуццё меры. Імкненне да кампрамісу, улік усіх здаровых, прымальных ідэй павінны стаць той меркай, тым паказчыкам, якія аддзяляюць цэнтрыста ад іншых, перш за ўсё ад кансерватараў.

Вядома, займаць цэнтрысцкую пазіцыю не проста, бо цяжэй за ўсё правесці сярэднюю лінію грамадскага развіцця. Яна вымагае мужнасці, разважлівага цярпення, дакладных ведаў. Але менавіта такая лінія больш адпавядае патрэбам грамадства, настрою большасці людзей, асноўнай часткі інтэлігенцыі. У пацвярджэнне спашлюся на прыклад з уласнай навукова-выкладчыцкай дзейнасці. Мая кніга ("Взгляд изнутри. Общественно-политический процесс на Беларуси") мела поспех сярод шырокага кола чытачоў, выкладчыкаў гісторыі і паліталогіі, студэнтаў, актыву грамадска-палітычных рухаў таму, што яе вылучала, як пісалі прафесар, доктар філасофскіх навук У. Семянькоў, кандыдат філасофскіх навук С. Дубянецкі і іншыя, сапраўды дэмакратычнай, а не лозунгава-крыклівая, цэнтрысцкая пазіцыя. Кніга выйшла ў свет у самым канцы 1993 года. З улікам яе ідэй і высноў у лістападзе мінулага года была праведзена Брэсцкая абласная навукова-практычная канферэнцыя на тэму: "Сучасны палітычны працэс у Беларусі і яго праяўленне на Брэстчыне".

Сёння многія палітыкі па-ранейшаму лічаць, што чым больш бязлітасная барацьба, тым хутчэй наступае перамога. Гэта няпраўда, бо перамога, якая дасягаецца ў жорсткай барацьбе, ёсць перамога часовая, яна пагражае новым раундам непрымірымасці, помсты. Сталін у свой час атрымаў такую перамогу над сваімі палітычнымі сапернікамі. І што ж? Ці ж яго пірава перамога не з'яўляецца першапрычынай нашай жорсткасці? Ці ж не ясна, што калі мы не спынім зараз гэтую эстафету, то яна непазбежна прывядзе да катастрофы?

**І. КАТЛЯР,**
**дацэнт Брэсцкага педінстытута, палітолаг**

# З ЦІКАВАСЦЮ ДА БЕЛАРУШЧЫНЫ

ІІ кангрэс беларусістаў пачаў сваю працу назаўтра пасля падвядзення вынікаў рэферэндуму, дык і не дзіўна, што настрой яго ўдзельнікаў сяготага моцна б парадаваў. "Магутны Божа" ў выкананні жаночага хору гучаў як ніколі жаласліва і пацвярджаў думку, што з такім гімнам мы няшмат даможамся.

Прысутнічала 250 дэлегатаў з 17 краін далёкага і блізкага замежжа. Усіх іх, як сказала Э. Смулкова, аб'ядноўвае адно: цікавасць да беларушчыны ва ўсіх яе праявах. Праўда, прывітаць навукоўцаў з усяго свету прыйшлі не самі міністры, як планавалася, а намеснікі міністраў адукацыі ды культуры і друку. "Замежныя справы" ўвогуле абышліся прывітальным лістом, нават без прадстаўніка. Адкрыта выказваць пашану прыхільнікам беларушчыны становіцца небяспечным для кар'еры.

Пра маральны аспект працы беларусістаў казаў і даўні сябар нашай зямлі Джым Дзінглі (Англія). Акрамя яго, на пленарным пасяджэннях выступілі Эльжбета Смулкова, пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі, Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (ЗША), Дзюн Іці-Сата, прэзідэнт Японскай асацыяцыі беларусістаў, Найдзен Вылчаў, пісьменнік (Балгарыя), Ніл Гілевіч, старшыня камісіі парламента, Алесантэры Ахола-Вало, мастак і філосаф (Фінляндыя), Яўген Шыраеў, прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (Масква), Бруна Дрвескі, прэзідэнт нацыянальнай асацыяцыі "Францыя — Беларусь".

Радзім Гарэцкі, старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", выказаў падзяку ўсім, хто нёс і нясе ў сваім сэрцы Беларусь.

На другі дзень працавалі навуковыя секцыі па наступных накірунках: міжнацыянальныя адносіны, міжканфесійнае ўзаемадзеянне, моўныя і літаратурныя кантакты, беларуская дыяспара і іншыя.

Завяршыўся кангрэс пасяджэннем "круглых сталоў", дзе былі разгледжаны гістарычныя ўзаемадачыненні беларусаў з літоўцамі, латышамі, палякамі, расійцамі, украінцамі. Асобна абмяркоўвалася пытанне страчаных у час другой сусветнай вайны матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей.

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход, на якім прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс выступіў з дакладам і быў зноў абраны на кіраўніцтва. Яго віцэ-прэзідэнтамі сталі Ю. Лабынцаў, Г. Цыхун, А. Баршчэўскі, Д. Дзінглі, В. Кіпель. Вучоны сакратар — З. Шыбека.

Большасць замежных вучоных, якія былі гасцямі Мінска, адзначылі высокі навуковы ўзровень ІІ кангрэса беларусістаў і яго дзелавую, канструктыўную атмасферу.

Паралельна з кангрэсам працавала канферэнцыя па беларускай навуковай тэрміналогіі, створана адпаведная камісія. Прынята рашэнне, што ўсе беларускамоўныя падручнікі, якія выходзяць у рэспубліцы, будуць разглядацца тэрміналагічнай камісіяй па некалькіх накірунках: тэхнічным, прыродазнаўчым, гуманітарным і інш. Старшынёй камісіі Міністэрства адукацыі РБ прызначыла доктара філалагічных навук Г. Цыхуна, які яшчэ пройдзе працэдуру выбараў.

**НАШ КАР.**

Адгалоскі

# ПІ, НЕ ХАЧУ?..

## З НАГОДЫ АДНАГО ЎРАДАВАГА АДКАЗУ НА ДЭПУТАЦКІ ЗАПЫТ

У "ЛіМе" за 3 лютага г. г. пад рубрыкай "Прагучала з парламенцкай трыбуны" было надрукавана выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі дэпутата В. Піскарова, якое выклікала і ў самой Авальнай зале, і па-за яе сценамі досыць моцны рэзананс. Справа ў тым, што выступоўца закрануў пытанні, якія сёння не могуць не хваляваць грамадскасць краіны. Гэта тычыцца такой пачварнай з'явы ў нашым жыцці, як п'янства і алкагалізм, якія шырока ўвайшлі ў наш побыт. Варта нагадаць толькі некаторыя факты, названыя В. Піскаровым. У 1994 г. у рэспубліцы было рэалізавана каля 150 мільёнаў літраў толькі адной гарэлкі. На ўліку ў органах правапарадку і медыцынскіх установах знаходзіцца 100 тысяч хранічных алкаголікаў, у тым ліку 10 тысяч жанчын. Былі названы ў ягоным выступленні і іншыя, не менш "красамоўныя" факты, што сведчаць аб татальнай алкагалізацыі насельніцтва краіны.

У сувязі з усім гэтым дэпутат Вярхоўнага Савета звярнуўся да Кабінета Міністраў з заклікам неадкладна распачаць распрацоўку і рэалізацыю прадуманай і ўзважанай дзяржаўнай праграмы па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам, якія пагражаюць самому існаванню нацыі.

На сваё выступленне, зробленае ў форме дэпутацкага запыту, В. Піскароў неўзабаве атрымаў адказ ад Кабінета Міністраў, падпісаны віцэ-прэм'ерам У. Русакевічам. З адказам гэтым, што носіць назву "Аб пытаннях, звязаных са спажываннем у рэспубліцы алкагольных напояў", Віктар Аляксеевіч пазнаёміў рэдакцыю "ЛіМа".

Што ж можна даведацца з гэтага ўрадавага адказу? Па-першае, што Кабінет Міністраў разгледзеў пытанне, звязанае з ужываннем у рэспубліцы алкагольных напояў. Гэта, вядома, добра. Што яшчэ? А яшчэ — што не такі страшны чорт, як яго малююць. Аказваецца, як пішацца ў гэтым дакуменце, "Аналіз паказвае, што максімальны ўзровень вытворчасці і спажывання ў рэспубліцы алкагольнай прадукцыі быў дасягнуты ў 1984 годзе. Тады ў нас было атрымана па 8,3 літра алкагольных напояў на аднаго чалавека ў год (у пераразліку на абсалютны алкаголь), а спажыванне (з улікам завозу) склала 9,1 літра на чалавека". І каб зусім супакоіць дэпутата, у адказе прыводзяцца лічбы спажывання алкагольных напояў у многіх краінах Захаду, дзе яны, аказваецца, нашмат вышэйшыя. Напрыклад, у Венгрыі — 11,3 літра, Італіі — 11 літраў, Германіі — 9 літраў, а ў Францыі аж 13,8 літра і г. д.

Адразу скажам, хітрыя гэта лічбы. Хітрыя ў тым сэнсе, што гэта, так бы мовіць, не той алкаголь, а калі яшчэ больш канкрэтна — не тое п'янства нават пры тых страшных лічбах. Бо, скажам, француз, які кожны дзень выпівае за абедам бутэльку сухога слабага вінаграднага віна і ўстае з-за стала ў самым-самым лёгкім падпітку, гэта адно. А наш суайчыннік, што ўзяў "на грудзі" адразу паўлітра гарэлкі ці самагонкі і пасля гэтага страціў розум і чалавечае аблічча,— гэта другое. І як бы сярэднегадавыя "градусы" віна ні пераважалі над аналагічнымі "градусамі" гарэлкі — карціна ў адным выпадку будзе выклікаць у пабочнага назіральніка лёгкую спачувальную ўсмешку, а ў другім — толькі агіду.

Праўда, спаслаўшыся на заходнія краіны, дзе з п'янствам справы яшчэ горшыя, чым у нас, аўтары ўрадавага адказу вымушаны ўсё-такі прызнаць, што "У сувязі з пагоршаннем у рэспубліцы сацыяльна-эканамічнай абстаноўкі і павелічэннем ужывання алкагольных напояў па дадзеных Міністэрства аховы здароўя за апошнія гады рэзка ўзрасла колькасць хворых на алкагалізм і асабліва на алкагольны псіхоз. У 1994 годзе п'янымі было здзейснена 572 забойствы, 915 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 639 разбойных нападаў, 1831 рабаўніцтваў і 9785 крадзяжоў, за год міліцыяй выяўлена 4641777 фактаў парушэнняў антыалкагольнага заканадаўства".

І, вядома ж, у адказе ідзе пералік мерапрыемстваў, якія, па думцы ўрада, павінны спыніць гэтую алкагольную вакханалію. Сярод іх — ліцэнзаванне вытворчасці спірта і спіртаўтрымліваючых вырабаў, увядзенне, згодна з указам прэзідэнта, маркіроўкі ўвозімых у рэспубліку алкагольных і тытунёвых вырабаў. Прызнаецца і неабходнасць змен у існуючым заканадаўстве з мэтай узмацнення крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці за злачынствы, здзейсненыя ў нецвярозым стане.

Але колькі тых антыалкагольных пастаноў і рашэнняў на самых высокіх "вярхах" ужо прымалася, пры амаль нулявым эфекце!..

А пакуль што... А пакуль што ў час апошніх выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і галасавання з нагоды прапанаванага прэзідэнтам рэферэндуму на выбарчых участках прадаваліся віно і гарэлка на разліў. Без усякага, як некалі, абмежавання. Пі, не хачу...

**М. ЗАМСКІ**

## МОВАЙ РЭДКІХ ДАКУМЕНТАЎ

**Напярэдадні вялікага юбілею Перамогі ў Горацкім гісторыка-этнаграфічным музеі адчынена выстава “Зброя палымянага слова”, падрыхтаваная Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Аб’яднаннем літаратурных музеяў. Каля 300 экспанатаў расказваюць пра франтавыя і партызанскія лёсы пісьменнікаў. Экспануюцца унікальныя франтавыя газеты “За Савецкую Беларусь” і “За свабодную Беларусь”, газеты-плакаты “Партызанская дубінка” і “Раздавім фашысцкую гадзіну”, у якіх супрацоўнічалі М. Лынькоў і К. Крапіва, І. Гурскі і П. Глебка, П. Панчанка і М. Танк. Сярод экспанатаў першае выданне вядомай паэмы М. Танка “Янук Сяліба” і часопіс “Огонёк” за 1943 г. з рэцэнзіяй на яе. Рэліквіяй з’яўляецца і першы ваенны зборнік фельетонаў К. Чорнага “Кат у белай манішцы” (1942). Выклікаюць цікавасць пасведчанні аб камандзіроўках на фронт, узнагародныя дакументы, рукапісы, прадметы вайсковай амуніцыі пісьменнікаў. На рэдкіх фотаздымках 1941—42 гг. — карэспандэнт армейскай газеты А. Куляшоў з баявымі сябрамі, К. Крапіва з сынам, які пазней загінуў пад Сталінградам, пісьменнікі і паэты на прыёме ў начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. Панамарэнкі...**

**Асобную старонку выставы складаюць матэрыялы аб навуковай, грамадскай і творчай дзейнасці ў часы вайны народных песняроў Я. Купалы і Я. Коласа.**

**Прадстаўлены і экспанаты пра пісьменнікаў, якія змагаліся ў падполлі, у партызанскіх фарміраваннях, супрацоўнічалі ў падпольным друку. Імя Я. Брыля, напрыклад, сустракаецца амаль у кожным нумары мірскай падпольнай газеты “Сцяг свабоды” і сатырычнага лістка “Партызанскае жыгала”. Гэтыя выданні, а таксама клішэ да іх экспануюцца побач з партрэтам пісьменніка, які ў гады вайны партызаніў на тэрыторыі былой Баранавіцкай вобласці.**

**Адзін з цэнтральных экспанатаў — зборнік вершаў А. Астрэйкі “Слуцкі пояс”, выдадзены, як вядома, у 1943 г. у друкарні Слуцкай падпольнай газеты “Народны мсцівец”.**

**Арганічна ўплецены ў экспазіцыю мастацкія творы. Сярод аўтараў графічных работ такія вядомыя мастакі, як А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі, П. Дурчын. Плакатная графіка праводзіць гледача выставы па ўсіх старонках вялікай вайны, пачынаючы з яе першых дзён да пераможнай вясны 45-га года.**

**Выстава з’яўляецца добрым прыкладам супрацоўніцтва музеяў напярэдадні іх прафесійнага свята — Міжнароднага дня музеяў, які адзначаецца 18 мая.**

**І. ВАРАНКОВА,**
**галоўны захавальнік фондаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

## З ЛЮБОЎЮ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

**Вольга Васільеўна Казлова, дацэнт філфака БДУ, мае вялікую заслугу ў падрыхтоўцы спецыялістаў-філолагаў вышэйшай адукацыі. На працягу многіх гадоў яна чытае спецкурс “Якуб Колас — класік нацыянальнай літаратуры”, апошнія гады кіруе спецсемінарам, прысвечаным творчасці народнага песняра, дванаццаць год загадвала кафедрай беларускай літаратуры. Многія яе выхаванцы паспяхова працуюць у школах, вышэйшых навучальных установах і іншых галінах нацыянальнай культуры. Амаль кожны студэнт яе групы быў наведвальнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа: Вольга Васільеўна — ініцыятар і арганізатар экскурсій у музей паэта — лічыць іх працягам вучэбнага працэсу. Штогод музей праводзіць навуковыя канферэнцыі, на якіх разглядаюцца праблемы сучаснага коласазнаўства, і В. Казлова са сваімі студэнтамі — актыўны іх удзельнік. Як і шматлікіх іншых мерапрыемстваў па прапагандзе спадчыны песняра. Сваімі ведамі, багатым вопытам В. Казлова дзеліцца з настаўнікамі роднай мовы і літаратуры: часта выступае на навукова-метадычных, настаўніцкіх канферэнцыях, семінарах у ВНУ і школах. Любоў, шчырасць, захапленне Коласавай спадчынай праявіліся і ў тым, што Вольга Васільеўна абараніла кандыдацкую дысертацыю па трылогіі “На ростанях”, мае публікацыі аб творчасці паэта. Любоў і пашана да песняра стала станам яе душы і сэрца. За сваю пачэсную працу ёй прысвоена ганаровае званне “Заслужаны работнік вышэйшай навучальнай школы”.**

**Віншуючы шаноўную Вольгу Васільеўну Казлову з юбілеем, музейцы-коласаўцы зычаць ёй добрага здароўя і здзяйснення ўсяго задуманага на карысць беларускай культуры.**

М. МАЦЮХ

# ГЕРАЛЬДЫКА ПРАВІНЦЫЙНЫХ НУВАРЫШАЎ

*Які пан, такі й жупан.*
*(Беларуская народная прымаўка)*

Ізноў паўсталі пытанні геральдыкі... Не, самі яны не паўсталі, а былі “инициированы” галаслівым гуртам вечна вольных (ад працы) заўсягдаяў “чырвоных куткоў” і “ленінскіх пакояў” ЖЭСаў. Гэныя “геральдмайстры” да перабудовы аб ніякай сімволіцы не чулі, як і аб шмат якіх іншых непатрэбных для іх дробязях: аб гісторыі Беларусі, аб беларускай мове, культуры, бо вельмі ўтульна пачувалі сябе на заходняй ускраіне Вялікай імперыі. Актывісты з кагорты нязменных натхняльнікаў чарговых “перамог” ніколі “не стареют душой”. Як і раней, яны заўжды гатовыя арганізаваць энтузіязм мас альбо “письма трудящихся” паводле Генеральнай Лініі. Пасля дробнага жнівеньскага перапуду Лінія выпрасталася, атрымала Правадыра, адпаведна з’явілася ініцыятыва. Агучыць гэную “ініцыяціву” вырашылі з самай аж вяршыні ўладнае “вірцікалі”.

Ну, не падабаецца наш гістарычны герб пэўным асобам, большая частка з якіх проста не мае праўдзівай гістарычнай інфармацыі, бо звесткі мусяць чэрпаць з “беларускага” радыё і TV, з савецкіх (саўковых) і камуністычна-шавіністычных газет (а іншых на Беларусі амаль што няма). Пануючая ў нашым краі саўковая ўлада спрыяе таму, што гэтыя “баявыя лісткі” вірующь над папялішчам развітога сацыялізму, над тым ідэалагічным сметнікам, які пакінула пасля сябе перабудова, над духоўнай пустэчай, дзе месцілася раней 1/108 частка імперыі, — над былой БССР.

Што ж рабіць? Ну, не падабаецца ім нашая незалежнасць, гісторыя, мова, “якой азваўся беларус”. De gusnibus non disputantur: у кожнага кавалера свая манера. Як не ўспомніць вялікага Янку Купалу: “Чаго вам хочацца, панове?..” А, ужываючы сучасную тэрміналогію, запытацца: якая ваша пазітыўная праграма? Што вы прапануеце замест беларускай сімволікі?

А сапраўды, што б “канструкцыйнага” маглі б прапанаваць свайму народу навaспечаныя геральдмайстры былой БССР? Які маюць выбар?

З аналітычнага пункту гледжання выбар той не так каб занадта шырокі, але ж і неблагі.

Напрыклад, першы (еўрапейскі) варыянт: амаль усе краіны маюць за герб гістарычна замацаваны сімвал. Не складае выключэння і Расея, куды так любяць паглядаць господа-товарищи з-пад розных славянскіх “забоpов”, хоць пад знакам двухгаловага арла было здзейснена шмат якіх непрыгожых спраў, пачынаючы ад таго, што “Иван Грозный убивает своего сына Ивана” і ўключаючы трагедыю Муму. (Я ўжо не чапаю палітыкі!) Але ж там, на гербах Еўропы, амаль як на грошах Кебіча — суцэльны заапарк: і дзюбастыя арлы, і кіпцюрастыя львы, а пэўныя жывёліны наогул не маюць дыялектычна-матэрыялістычнага выгляду, бо гэта грыфоны ды цмокі. Ды й гэта не ўсё: фінскі, напрыклад, леў трымае ў лапах меч, а нарвежскі — ажно сякеру (жах які!). Нашы геральдмайстры, каб іх узялі ў дарадцы, “настоятельно не рекомендовали бы” гэткім краінам мець такія “страшныя” гербы. А зараз яны страшаць свой народ выявай вершніка Пагоні. Шчаслівыя народы, што не маюць такіх дарадцаў і такіх уладцаў!

Але вернемся да геральдыкі. Якія яшчэ прынцыповыя адменнікі ўключае сусветная геральдыка? Варыянт другі (усходні): сціплая выява мусульманскага паўмесяца ды кананічны арабскі надпіс, што славіць Алаха. Маляванне звяроў і чалавека не вітаюць знаўцы Карану, таму ў краінах Усходу знакі дзяржаўнай моцы больш сціплыя...

А яшчэ? Яшчэ маецца трэці (новагістарычны) варыянт. Дзяржаўныя сыгнеты тут створаны ўладамі ў сваіх кабінетах ці ў палатках паўстанцкіх палявых камандзіраў, калі яны (новыя ўладары) да гэтае ўлады спачатку дапялі, а ўжо потым пачалі думаць аб геральдыцы. Такія гербы відаць на франтонах амбасад дзяржаў трэцяга свету, якія атрымалі незалежнасць адносна нядаўна. Частка з іх пайшла ўслед еўрапейскай традыцыі, адшукаўшы свае гістарычныя карані, частка зарыентавалася на Усход, а некаторыя заняліся самадзейнасцю,ператварыўшы геральдычнае поле ў старонкі ўводнага курсу папулярнай біялогіі сваёй краіны, ці ў каляровы буклет-рэкламу турыстычнай фірмы. Чаго там толькі няма! Уся флора і фауна!

Чаго б можна было чакаць ад нашых геральдычных нуварышаў (фр. nuovoriochi — новабагацеі), якія хацелі б пачаць адлік часу калі не ад сябе ўласна (ой, як карціць!), дык ад “нашего Петра Мироновича”?

Першы (класічны гістарычны) варыянт яны люта ненавідзяць, як ненавідзіць біном Ньютана двоечнік без матэматычных схільнасцей, як ненавідзяць яны саму гісторыю краіны Беларусі, якой яны зусім не ведалі, бо жылі сабе (і няблага!) у колішнім “Северо-Западном крае” СССРа. Тут усё ж такі трэба прызнаць, што яшчэ болей мясцовыя ды й іншыя господа-товарищи не любяць тых, хто насмеліўся гэтую гісторыю і памяць аб сваёй краіне захаваць, хто насмеліўся марыць аб адраджэнні Бацькаўшчыны. Яны, гэтыя вечна ўчарашнія, не могуць жыць, не шукаючы ворагаў, як завяшчаў вялікі Ленін. Яны няздатныя прызнацца, што гэта яны самі, узводзячы варожасць да акаляючага сусвету ў абсалют, прычыніліся да ліквідацыі сваёй савецкай імперыі. Яны няздатныя вытруціць са сваіх люмпен-пралетарскіх душ бязмежную чырвоную, поўную фрэйдаўскіх комплексаў нянавісць да наваколля. А гэта і ёсць іхні найгалоўнейшы ўнутраны вораг. Гэта іхняя трагедыя, бо, страціўшы вобраз ворага, іхнія душы адразу заззяюць чорнымі пусткамі бязвер’я. Пагоня — сімвал іншай веры — для гэтых ягамосцяў — як мулета для быка. Здаецца яму (аслепленаму бляскам карыды, аглушанаму рыкам трыбун), што, стаптаўшы гэты кавалак тканіны, ён дабярэцца да матадора, а потым... Аб тым, што будзе потым, бык не думае, бо не той час, каб думаць, а, галоўнае — бо ён бык. А карыда мае свае правілы, якія прынцыпова адрозніваюцца ад таго modus vivendi, да якога змушае быка інстынкт. Так, нянавісць да Пагоні інстынктыўная, ірацыянальная, на ўзроўні падсвядомасці. Таму можна адназначна канстатаваць, што варыянт нацыянальнага гістарычнага сімвала, агульнапрынятага для Еўропы, цалкам непрыдатны для тых, хто ўяўляе сябе галоўнай дзеючай асобай на вільготным пясочку нашае палітычнае карыды.

Другі (усходні) варыянт яны б хацелі працягнуць, бо менавіта такімі былі старыя значкі, якімі савецкія вялікадзяржаўнікі пазначалі свае калоніі згодна з традыцыямі сярэднявечных дэспатый. (Згадзіцеся, ёсць нешта адмыслова ўсходняе ў стылі нашых колішніх ды й сучасных уладароў”). Дык вось, замест мусульманскага паўмесяца яны б без ваганняў пакінулі і серп і малаток, знакі дыктатуры “пралетарыяту”, а замест фіксаванай вербальнай інфармацыі аб тым, што “Няма Бога, акрамя Алаха, а Магамет ягоны прарок”; быў бы пакінуты парасексуальны заклік да ўсё тых жа пралетарыяў, якія, як вядома з класікаў марксізму , “радзімы не маюць”.

Але зараз не той расклад не толькі ў свеце, але нават на тэрыторыі былой БССР, у краіне, дзе большасць насельніцтва дагэтуль яшчэ верыць, што недзе недалёка за іхнімі гародамі пачынаецца поле цудаў. Атрымліваецца, што і варыянт нумар 2 не праходзіць...

Тады лагічна было б чакаць ад новых геральдмайстраў раскручвання варыянта N 3: этнаграфічна-турыстычнага, апалітычнага. Бо гэта менавіта іхні стыль, стыль бальшавікоў без партбілетаў, якія, адкідаючы сапраўдную гісторыю, заўжды імкнуліся стварыць свой эрзац (заменнік) абэцэдараўскага кшталту. Стратэгічна гэта было б найлепшае для сучаснай ужо не савецкай, але цалкам “саўковай” улады выйсце. Але з тактычнага пункту гледжання яно мае вялікую загану — шматварыянтнасць. І гэта “геральдмайстры” ўлічылі. А як калі раптам непарушныя шэрагі ворагаў Пагоні падзеляцца на прыхільнікаў Зубра ці Бусла, Канюшыны ці Цімафееўкі? Жах! Гісторыя ведае нават прыклад вайны паміж прыхільнікамі Белай і Чырвонай Ружаў. Але ж гэта тая гісторыя, якую нашым геральдмайстрам на палітзанятках не выкладалі. Затое яны добра засвоілі: “Если в партию сгрудились малые — сдайся враг, замри и ляг”. Таму партыя ўлады і не прапануе анічога новага ў геральдыцы. І мы, паспалітыя грамадзяне нашай пакуль што фармальна незалежнай краіны, не будзем мець шчасця палюбавацца на выяву якой-небудзь дзічыны (ці лагоднай, памяркоўнай свойскай жывёліны) на франтоне будынкаў урада і былога ЦК. Дык атрымліваецца, што ўлады нічога новага не прапануюць? Значыць, трэба лічыць <u>гербам</u> той накрэмзаны няпэўнай рукой аматара абразок з аляпаватым сонейкам ды нейкімі стужачкамі?

Так, геральдмайстры “вірцікалі” хацелі сказаць усяму свету: “Мы пойдем иным путем”, а пайшлі... па чацвёртым варыянце стварэння герба. Існуе і такі — самы, мусіць, рэдкі. Гісторыя захавала згадку пра тое, як пэўны ліхвяр-працэнтоўшчык, узбагаціўшыся ад свайго гешафтмахерства, пачаў пазычаць грошы ўжо не толькі магнатам, але і каралю. І вось аднойчы, калі кароль меў цяжкасці са сплатаю працэнтаў, гэны паважаны фінансіст замест вяртання доўгу папрасіў у караля тытул барона. Разам з тытулам кароль меўся надаць новаму барону і герб. Але былы ліхвяр аказаўся з гонарам і папрасіў у якасці герба зацвердзіць выяву шыльды на ягонай канторы. А шыльда тая была чырвонага колеру (die rotte Schild). Так і паўстаў герб баронаў Ротшыльдаў, герб нуварышаў.

Вось і мы, беларусы, калі прагаласуем за прапановы, што прагучалі з вяршаліны вертыкалі, залічым сябе да краін, якія пайшлі шляхам палітычных нуварышаў (мо гэта зараз і ёсць шлях “новых беларусаў”?), і на нашым гербе на посмех усяму свету будзе ззяць тая духоўная пустка, што з’явілася ў сэрцах саўкоў, калі з іхніх лацканаў зніклі сімвалы дыктатуры пралетарыяту ды выявы правадыра. Гэтая пустка будзе сведчыць, што думкі тых, хто па гнуткіх ліянах абяцанак забраўся на вяршаліну ўлады, не нясуць у сабе нічога канструктыўнага. А як інакш? Бо, маючы цяжкасці з вырашэннем макрапраблем гаспадаркі на мікраэканамічным узроўні (як было абяцана), вельмі прывабным для цяперашняй улады здаецца магчымасць выпрабаваць свой дакляраваны і разрэкламаваны арыгінальны падыход у палітыцы і дзяржаўным будаўніцтве: усе “архіскладаныя” пытанні вырашыць мікраінтэлектуальнымі сродкамі.

Гэткімі сродкамі нічога стварыць нельга. Адмаўляючы народу ў праве на гістарычную спадчыну нават праз акуляры “рэвалюцыйнай мэтазгоднасці”, нельга ўгледзець нічога канструктыўнага. А сама “ідэя” рэферэндуму даўно ўжо адшыфравана беларускім фальклорам у прымаўцы: “Хай жа ж гумно згарыць, але ж і мышы ляснуцца”.

У паляванні на ведзьмакоў-апазіцыянераў сучасныя ўлады гатовыя распаліць вялічэзнае вогнішча на ўласным падворку. Хай падзеліцца ці нават згіне нацыя, але ж і геральдыка гэных дэмакратаў ляснецца! А якая ж геральдыка застанецца? А такая, як і ўлада. Савецкай ужо няма, а тая што існуе, — выразна “саўковая”. Вядома, што слэнгавы тэрмін “савок” на тэрыторыі былога Саюза і далёка за ягонымі межамі функцыянуе як сінонім інтэлектуальнай абмежаванасці, нават хамства. А народ наш даўно ўжо зацеміў: “Няма горш пана, як з хама...” Ды й біблійны праклён з Хама яшчэ не зняты. Пан Бог не за тое яго пракляў, што малодшы сын Ноя няправільна трымаў відэлец у руцэ, не за тое, што гаварыў па-габрэйску з садома-гаморскім акцэнтам, а таму, што ён пасмяяўся са свайго бацькі, калі той знаходзіўся ў бездапаможным і непрыстойным выглядзе, бо п’яны быў. Зараз нашчадкі гэнага Ноевага сына беспакарана здзекуюцца з Краіны-Маці, з яе народа, які, на працягу двухсот гадоў ачмураны сівухай царска-бальшавіцкай прапаганды, збіты амаль да скону (яму ўжо нават мову адымае) господами-товарищами, толькі пачаў расплюшчваць вочы. Але магчымасць беспакаранага здзеку з Бацькаўшчыны не будзе вечнай. Будзьма мець надзею, што калісьці словы вялікага Максіма Багдановіча “Народ, беларускі народ, ты цёмны, сляпы быццам крот” мы зможам аднесці толькі да мінулых і сучасных дзён. Будзьма мець надзею, што шалупінне саўковасці зляціць з беларускіх душ, як зляцела фанерная свастыка з франтона Дома ўрада, як зляціць адтуль і той бязглузды знак нацыянальнай ганьбы, які нам рыхтуюць. Зляціць, калі нават на нейкі час яго туды нехта і ўсцягне.

**Віталь ЦЫБУЛЕВІЧ**

**P.S. Не столькі адсутнасць эмацыянальнай раўнавагі на вышынях уладнае вертыкалі, колькі выразная наяўнасць сервелісцкага (лёкайскага) імпэту ў яе багністых нізінах (прыкладаў безліч) падказвае, што не час зараз падпісвацца ўласным прозвішчам, якое, праўда, падаю да ведама і дыспазіцыі рэдакцыі.**

**В. Ц.**

***Ад рэдакцыі:*** *Гэты ліст мы атрымалі якраз напярэдадні рэферэндуму і, натуральна, надрукаваць яго не паспелі. Аднак актуальнасць сваю, нягледзячы на вынікі “плебісцыту”, ліст не страціў. Таму мы і друкуем яго.*

# МЫ Ў ГЭТЫМ МАТЭРЫЯЛЬНЫМ СВЕЦЕ

## КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІМА" М. ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ СА СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА АБАРОНЫ СПАЖЫЎЦОЎ В. ЛІЕВЫМ



*М. Замскі:* **— Як усё-такі вузка, абмежавана мы, бывае, успрымаем некаторыя паняцці, што апошнім часам шырока ўвайшлі ў наш паўсядзённы ўжытак! Узяць, да прыкладу, хоць бы такое словазлучэнне, як абарона правоў чалавека, якое ў масавай свядомасці стала ці не сінонімам дэмакратычных свабод, наогул дэмакратычнага ладу жыцця. Так ужо традыцыйна склалася, што пад правамі чалавека мы разумеем адно — права чалавека на свабоду думкі, свабоды слова, свабоду волевыяўлення. Адным словам, паняцці, звязаныя з духоўным жыццём чалавека. Але, хоць і вымаўляем мы з гонарам біблейскую ісціну, што не адным хлебам жывы чалавек, усё ж не будзем крывадушнічаць: жыве сярэдні грамадзянін далёка не ў апошнюю чаргу клопатам аб хлебе надзённым, карацей кажучы, чалавек у гэтым матэрыяльным свеце — спажывец. У самым шырокім сэнсе гэтага слова — ад медыцынскіх і культурных да гандлёвых і бытавых паслуг. Не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што менавіта ў гэтых варунках мы вельмі часта адчуваем сябе зусім безабароннымі. Перад вадзіцелем аўтобуса, які нас аблаяў, перад касіркай магазіна, што аблічыла, перад абыякавасцю ўрача, раўнадушшам чыноўніка і г. д.**

*В. Ліеў:* — Не магу з вамі не пагадзіцца. Наша таварыства і створана, каб абараніць інтарэсы чалавека ў нашым няпростым, тлумным жыцці.

**— І каму першаму прыйшла ў галаву такая шчаслівая думка? Трэба спадзявацца, што ваша таварыства не ўяўляе сабой, фігуральна кажучы, гэткую "кнігу скаргаў і прапаноў", накшталт той, што з'яўлялася абавязковым атрыбутам кожнага магазіна або майстэрні і з якой паздзекавалася не адно пакаленне савецкіх сатырыкаў?**

— Разумею вашу іронію. Не, мы "трошкі" не тое, і вам стане гэта зразумела, спадзяюся, з нашай далейшай гаворкі. Таварыства было створана ў 1989 годзе, можна сказаць, на хвалі перабудовы, дэмакратызацыі грамадства. Гэта менавіта ў той час узніклі стыхійныя аб'яднанні і клубы пакупнікоў. А калі кінуць позірк у гісторыю гэтага руху, дык мы ўбачым, што яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя ў Злучаных Штатах Амерыкі, а менавіта ў Чыкага хатнія гаспадыні аб'ядналіся, каб змагацца з махлярствам, падманам гандляроў і вытворцаў спажывецкіх тавараў. Рух гэты хутка распаўсюдзіўся на краіны Заходняй Еўропы. Своеасаблівы рэнесанс перажыў ён пасля другой сусветнай вайны і ў першую чаргу — ведаеце, дзе? У пераможаных краінах — Заходняй Германіі і Італіі, а таксама ў іншых краінах Еўропы, па якіх цяжкім катком пракацілася вайна і дзе пачалі ладзіць рынкавую эканоміку.

**— Як можна зразумець з вашых слоў, таталітарны лад, манаполія дзяржавы ў вытворчасці спажывецкіх тавараў выключае ўзнікненне падобных рухаў?**

— Як вы ведаеце, у савецкія часы амаль штогод прымаліся на ўрадавым узроўні шматлікія пастановы аб паляпшэнні якасці прадукцыі, павышэнні ўзроўню бытавога абслугоўвання насельніцтва і да т. п., але карысці ад тых пастаноў было мала, бо ўсе яны спускаліся зверху, без уліку існаваўшых тады вытворчых адносін. Лёд у гэтай справе крануўся, калі, як я ўжо казаў, нас пачала захліставаць паводка перабудовы. Дарэчы, у 1985 годзе Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыняла Рэзалюцыю па абароне правоў спажыўцоў, пад якой паставілі подпісы 150 краін, у тым ліку і Беларусь. У Рэзалюцыі былі выкладзены пэўныя патрабаванні да ўрадаў менавіта па абароне правоў спажыўцоў, падрыхтоўцы адпаведных законаў, стандартаў і г. д.

**— Як вядома, прыняў такі закон і наш Вярхоўны Савет. У сваёй прэамбуле закон дэкларуе, што "вызначае агульныя прававыя, эканамічныя і сацыяльныя асновы абароны грамадзян — спажыўцоў тавараў і распаўсюджваецца на адносіны іх з прадпрыемствамі, арганізацыямі, установамі незалежна ад форм уласнасці, умоў гаспадарання, а таксама грамадзянамі-прадпрымальнікамі". Унушальна, хоць і не вельмі зразумела. Як вы будзеце "качаць" свае правы, скажам, з гаспадаром прыватнага "камка", які прадае тавары, невядома калі і якой якасці выпушчаныя?**

— Пра "камкі" мы яшчэ пагаворым, а што тычыць закона, дык адзначу, што нараджаўся ён надзвычай цяжка і марудна. Наша таварыства пачало будзіраваць пытанне аб прыняцці Закона аб абароне правоў спажыўцоў яшчэ ў 1990 годзе, але яно адкладвалася з году ў год. Было відавочна, што частка дэпутатаў не гарэла жаданнем прымаць такі закон.

**— Хто ж быў супраць?**

— У першую чаргу дэпутаты, што выйшлі з нетраў прамысловай вытворчасці.

**— Карацей кажучы, прамысловае лобі?**

— Можна сказаць і так. Пікантнасць сітуацыі была яшчэ ў тым, што, па парламенцкім раскладзе, закон гэты павінна была распрацоўваць і выносіць на разгляд Вярхоўнага Савета Камісія па прамысловасці і паслугах насельніцтву, г. зн. дэпутаты, пра якіх мы вялі гаворку вышэй.

**— Яны баяліся, што з прыняццем закона будуць уціснуты інтарэсы таваравытворцаў?**

— Так. Адна справа, калі ты за выпуск нізкаякаснай прадукцыі нясеш перад спажыўцом мінімальную адказнасць, або зусім не нясеш, другая — калі вытворца пастаўлены ў жорсткія рамкі Закона аб абароне правоў спажыўцоў і павінен поўнасцю кампенсаваць нанесеную спажыўцу шкоду, у тым ліку і маральную.

**— Нават маральную? Хто ж яе вызначае?**

— Суд.

**— І чым ён пры гэтым кіруецца, з чаго выходзіць?**

— Вось, скажам, чалавек купіў тэлевізар ці абутак, а праз тыдзень выявілася, што яны, кажучы па-руску, "приказали долго жить". Пацярпелы — туды, пацярпелы — сюды, магазін спасылаецца на прадпрыемства, а прадпрыемства таксама знаходзіць нейкія прычыны, каб адмовіць спажыўцу. Ходзіць чалавек, нервы псуе, а там, глядзіш, і захварэў на гэтай глебе. Усё гэта ўлічвае суд пры разглядзе іску пацярпелага і ў сваё рашэнне кампенсаваць матэрыяльную страту пакупніка можа дадаць пункт і аб задавальненні яго прэтэнзій чыста маральнага плана.

**— Гэта трэба будзе мець на ўвазе. Хоць незразумела, якімі прававымі нормамі можа кіравацца пры гэтым суддзя — у Грамадзянскім кодэксе пра адказнасць за такія маральныя страты як быццам нічога не гаворыцца.**

— Кампенсацыю за маральную страту прадугледжвае закон, пра які мы вядзём гаворку. І многія суддзі такія санкцыі прымянялі, праўда, толькі ў межах мінімальнай зарплаты. Не болей.

**— Што сёння для прадпрыемства ці нават магазіна 60 тысяч? Як слану камарыны ўкус.**

— Правільна. Але ж не трэба забываць, што большасць нашых суддзяў, так бы мовіць, людзі ўчарашняга дня. Яны разважаюць прыкладна так: табе вярнулі грошы за сапсаваны тэлевізар, будзь за гэта ўдзячны і не патрабуй невядома што. Скажу больш: як я ўпэўніўся, некаторыя суддзі яшчэ наогул не трымалі ў руках Закона аб абароне правоў спажыўцоў.

**— Слухаю вас і згадваю прамільгнуўшыя нядаўна ў прэсе некалькі паведамленняў такога кшталту. У ЗША нейкі хворы, якому зрабілі аперацыю па выдаленні апендыкса (увогуле трывіяльная аперацыя) і які пасля гэтага працяглы час адчуваў сябе кепска, падаў на шпіталь у суд за няякасна зробленую, на яго думку, аперацыю і выйграў справу. Па рашэнні суда шпіталь выплаціў пацярпеламу ў выглядзе кампенсацыі за маральную шкоду такую суму, што яе хопіць, па сцвярджэнні газеты, гэтаму чалавеку да скону веку. А вось яшчэ прыклад, гэтым разам — з Ізраіля. Жанчына спазнілася на пахаванне маці па віне авіякампаніі, што было даказана ў судзе, у выніку чаго авіякампанія вымушана выплаціць пацярпелай велізарную суму. Фантастыка, дый годзе!**

— Так яно і павінна быць у цывілізаваным грамадстве. У дзяржаве з нармальнай рынкавай эканомікай заўсёды існуе баланс паміж таваравытворцамі і спажыўцамі. Карацей кажучы, чым лепш першы з іх дагаджае другому, тым большы ў яго шанц пратрымацца на спажывецкім рынку, не разарыцца. Гэта — аксіёма.

**— Вы, Вячаслаў Барасбіевіч, не перабольшваеце значэнне Закона аб абароне правоў спажыўцоў? Гэта пры нашай, фактычна сацыялістычнай, эканоміцы, пры манапольнай дзяржаўнай вытворчасці, адсутнасці канкурэнцыі паміж вытворцамі і г. д.?**

— І ўсё-такі закон, хоць і ў няпоўнай меры, дазваляе спажыўцу процістаяць вытворцу, прымушае яго лічыцца з яго інтарэсамі. Дарэчы, так у васьмідзесятыя гады было ў Польшчы, калі там яшчэ панаваў таталітарны рэжым. У той час там разгарнуўся магутны рух пакупнікоў, не лічыцца з якім улады не маглі сабе дазволіць.

Так што, якім бы недасканалым ні быў наш Закон аб ахове інтарэсаў спажыўцоў, усё ж добра, што ён ёсць.

**— У нас шмат быццам бы і неблагіх законаў, шкада толькі, што практычнай карысці ад іх нямнога. Закон сам па сабе — жыццё само па сабе. Як жа ваш закон на справе ажыццяўляе дэклараванае права спажыўца на дзяржаўную абарону сваіх інтарэсаў, неабходную якасць тавараў, іх бяспеку, поўную і праўдзівую інфармацыю аб іх? І як усё гэта спалучыць з рэкламай, якая запаланіла экраны тэлевізараў і старонкі газет, — рэкламай, якая ў пераважнай большасці выпадкаў бязбожна хлусіць?**

— Наконт рэкламы я з вамі поўнасцю згодны. Але гэта ўжо права пакупніка глытаць тую рэкламную нажыўку, ці не. Ва ўсякім разе, набыты такім чынам тавар грамадзянін, пры выпадку яго нізкай якасці, можа замяніць, або патрабаваць грашовай кампенсацыі, і тут яго ў гэтай справе закон абараняе. Іншая справа, што далёка не ўсё, што мы хацелі ў гэтым законе бачыць і за што мы ў сваёй дзейнасці змагаемся, там ёсць. На жаль, некаторыя палажэнні закона накіраваны на тое, каб зменшыць адказнасць вытворцаў перад спажыўцом. Напрыклад, максімальна заніжаны тэрміны замены вытворцам няякаснага тавару. У першую чаргу гэта тычыцца прадукцыі лёгкай прамысловасці — абутку і адзення, на замену якіх устаноўлены ўсяго толькі трохмесячны тэрмін, хоць у час распрацоўкі закона, у якой прымалі ўдзел і мы, намі выказваліся думкі, што такі тэрмін павінен складаць не менш 12 месяцаў.

**— Мы з вамі вядзём гаворку пра адказнасць за якасць пераважна прамысловых тавараў. Давайце звернем нашу ўвагу і на якасць харчовых прадуктаў. Тут, здаецца, не менш праблем. Дарэчы, у законе ўсё круціцца вакол адказнасці за выпуск няякасных тавараў. Тавараў! Ну, а хлеб або мяса — гэта што? Ці адказнасць за іх якасць законам не прадугледжана?**

— Такое пытанне ўзнікала. Ім, па нашай просьбе, займаўся Вярхоўны суд рэспублікі, які сваім спецыяльным рашэннем вызначыў, што і нехарчовыя і харчовыя тавары ўваходзяць у адно паняцце — тавары.

**— Ну і што з гэтага? Грамадзянка купіла варанай кілбасы і забылася пакласці яе ў халадзільнік. Назаўтра гэты "тавар" распаўсюджваў такі водар, што... Несці тую кілбасу назад у магазін?**

— У выпадку, пра які вы апавядаеце, вядома, ні вытворца, ні гандаль несці адказнасць не будуць. А вось калі вы ў той кілбасе знойдзеце чорт ведама што — кавалак ануч ці цвік, то па законе магазін абавязаны вярнуць кошт вашай пакупкі, ці замяніць яе. Літаральна днямі нам пазваніў грамадзянін і расказаў, што, куснуўшы кавалак батона, зламаў сабе зуб. Я адразу параіў яму аформіць гэта дакументальна, г. зн. скласці акт, сабраць паказанні сведкаў, бо гэта падсудная справа.

**— Бацюхны, якіх сведкаў? Хіба гэта была прылюдная дэгустацыя батонаў? А мо чалавек зламаў зуб, разгрызаючы арэх?**

— Гаворачы пра сведкаў, я меў на ўвазе дамачадцаў.

**— Наколькі я ведаю, сведчанні блізкіх людзей судом не прымаюцца. Не, паважаны Вячаслаў Барасбіевіч, усё гэта можа мець месца і не выклікаць з'едлівай усмешкі ў грамадстве з высокай правасвядомасцю і традыцыйнай чалавечай сумленнасцю, калі нікому ў галаву не прыйдзе падазраваць некага ў падобнай мане.**

— А я ўпэўнены, што з нашай дапамогай нагаданы мной грамадзянін справу ў судзе выйграе.

**— І якая можа быць кампенсацыя за зламаны зуб?**

— Гэта вырашыць суд. Урэшце, трэба мець немалыя грошы, каб паставіць зуб у платнай стаматалагічнай паліклініцы. Так што кампенсацыя можа быць і такой. Галоўнае, трэба абавязкова ўсім нам звяртаць увагу на кожны выпадак уціску нашых правоў на дабраякасную прадукцыю, якую нам прадаюць, на лячэнне, якое нам прапануюць, бытавыя паслугі, якімі карыстаемся і г. д.

Нагадаю мінулагодні выпадак, калі групу беларускіх турыстаў бязбожна ашукала адна з турыстычных фірм, што [illegible] арганізаваць адпачынак у Балгар[illegible] замежных курортах, а на самай [illegible] не забяспечыла сваіх даверлівых кліентаў ні дастатковай колькасцю авіяцыйных білетаў, ні месцамі ў гатэлях. З дапамогай нашага таварыства турысты выйгралі іск супраць фірмы ў судзе. Суд абавязаў фірму выплаціць ім салідную кампенсацыю, у тым ліку і за маральныя страты.

**— Вы нічога не гаварылі пра колькасць членаў вашага таварыства.**

— Яно ў нас не фіксаванае.

**— За кошт чаго вы тады існуеце?**

— За кошт адлічэння ад выйграных судовых іскаў. Мы дамагаліся, каб нам адлічвалася 50 працэнтаў штрафных санкцый, якія накладваюцца на вінаватых за парушэнне Закона аб абароне інтарэсаў спажыўцоў, нам жа пакінулі толькі 10 працэнтаў.

**— Мала.**

*(Працяг на стар. 12)*

не прымаючы пад увагу маральнасць, прыстойнасць, сумленнасць. Мінае час і паранейшаму знаходзяцца ахвочыя, разявіць рот на чужы каравай:

**Мы зноў стаім ускрай свайго гасцінца,**
**перад сабой гнятліва пазіраем —**
**на новы рух пачварна-страхавідны:**
**гарматы, танкі і табун палонных,**
**які маркотна ў нікуды ідзе,**
**сілкуючыся пылам і свінцом.**

Страшнае, жудаснае насланнё працягваецца: "Мы ж, выйшаўшы з лясоў і папялішчаў, // глядзім на зброд жалезны, зброд чужы // і думаем: за што нам гэта кара?" І, як і трэба было чакаць, паэт перакідвае мост і ў дзень сённяшні. Малюнак знаёмы, хіба што толькі больш мірны: "Мчаць па дарозе нашай цягнікі, // кудысь валочаць тлустыя цыстэрны, // вязуць кантрабандыстаў, рэкеціраў, // хапуг валютных, чынных прайдзісветаў — // з акон ляцяць паперкі ад цукерак". І ці ёсць мяжа ўсяму гэтаму? І бачыцца дзе-небудзь выйсце?

Пытанні, зразумела, рытарычныя, але як абысціся без іх?

**А мы стаім наўзбочкі той дарогі**
**і пазіраем ездакам услед —**
**тужліва-сумна, трохі і нервова:**
**калі ж, урэшце, спыніцца той рух,**
**чужое шэсце з лямантам начным**
**праз наша асабістае дварышча,**
**дзе ўжо сабакі выюць ад бяссілля?**

І на самай справе — дакуль знаходзіцца нам "ускрай дарогі"? Дакуль трываць несправядлівасць? Дакуль разлічваць, што з'явіцца нехта добры і справядлівы і вырашыць усе нашы праблемы, зробіць нас шчаслівымі, заможнымі? А самі мы? Кожны паасобку і ўсе разам? Ці здатныя пазбавіцца таго самага тутэйшаства не дэкларацыйна, а прагнаўшы яго прэч з самой душы?..

Няпростыя пытанні, і іх з кожным днём не меншае. Яны ўскладняюцца, бо вельмі ж ужо супярэчлівая і надзіва непрадказальная сённяшняя рэчаіснасць. Балазе, літаратура не цураецца яе, не пакідае па-за ўвагай. І ў дадзеным выпадку, безумоўна, гаворка зусім не пра публіцыстыку, якой, як кажуць, усе карты ў рукі. Гаворка пра тую ж паэзію. А ў "Маладосці" гэта і "Балада пра чорны шоўк і белыя карункі" Л. Рублеўскай, і "Паэма журбы" М. Панковай... Нават празаік Я. Каршукоў выступіў з цікавай вершаванай падборкай. І кожны аўтар па-свойму задумваецца над спаконвечным, што сёння набыло асаблівы сэнс. Няхай і не прама, а як бы мімаходзь, праз зварот у тое ж мінулае, як у "Баладзе..." Л. Рублеўскай, але без адказу на гэтыя пытанні не абысціся.

Як немагчыма сёння і без пераасэнсавання нядаўняга мінулага. У тым ліку і без жадання разабрацца ў самім сабе. А гэтымі якасцямі акурат вызначаецца палымянская падборка К. Камейшы — "Лінія лёсу", "Курапаты", "Шукайлы"... У першым з вершаў лірычны герой апынуўся перад неабходнасцю (зрэшты, як і ўсе мы, пры ўмове, канечне, што сумленне не дрэмле) азірнуцца назад, выверыць уласныя арыенціры. Споведзь дзеля ачышчэння. Споведзь як адзіная магчымасць "душой не ачарсцвець":

**Пад роем чырвоных рабін,**
**Праз спелае ніў сугалоссе,**
**Я сам сабе шлях церабіў.**
**Таму і не роўна ішлося.**

Роздум, пераасэнсаванне... Гэтым прасякнуты "развагі франтавіка" В. Быкава "Вайна і перамога" ("Полымя"). Свой асабісты, месцамі бескампрамісны погляд. І разам з тым разуменне, наколькі шмат значыць тая ж вайна ў нашым лёсе: "Абясцэньваюцца шмат якія з нядаўніх каштоўнасцей, узнікаюць новыя. Маладым пакаленням здаецца, што для іх настаў новы час, не звязаны з праклятым мінулым, якое стала заслужаным лёсам іхніх бацькоў і дзядоў. Але пачакаем з вывадамі. Усё ж шмат у свеце звязана моцнай вяроўчынай, не разблытаўшы тугія вузлы якой, не надта пасунешся ў шчаслівую будучыню. Хаця гісторыя, як вядома, нічому не вучыць, але і вучыцца на сабе нікому не забараняе. Таму, вядома, хто хоча чаму-небудзь навучыцца. Для іншых яна — непатрэбная рэч. У тым ліку і гісторыя мінулай і крывавай вайны".

Вяртанне ў вайну і ў паэме С. Давідовіча "Партызанскі праспект" (таксама "Полымя"). Паэзія гэтага аўтара, як вядома, вельмі традыцыйная. Калі-нікалі гэта і шкодзіць мастацкасці. Што тычыцца згаданага твора, дык яна як нельга да месца. Наближанасць да размоўнай інтанацыі дазваляе яшчэ лепш заглыбіцца ў вытокі, адчуць дух народны. Вобраз партызанскага праспекта для С. Далідовіча — у нейкай ступені вобраз абагульнены. Ён увасабляе вернасць мужнасці, гераізму:

**З чаго ж ён пачынаецца. Адкуль?**
**Праспект названы ў гонар партызанаў?**
**Ці з самай першай смерці, першай раны**
**Атрыманай ад самых першых куль?**
**.......................................**
**Бясконца можна пералічваць "ці..."**
**Бо гора тое — назаўжды, бясконца,**
**Бо подзвіг гэты — велічны, як сонца, —**
**Другога параўнання не знайсці...**

"Проза месяца", калі можна так сказаць, моцная маральнай праблематыкай: новыя апавяданні А. Дзятлава і А. Вараловіча, змешчаныя адпаведна ў "Маладосці" і "Полымі". У іх аўтарам удалося на, здавалася б, будзённым матэрыяле паразважаць аб многім, а ў асноўным задумацца (і нас, чытачоў, падштурхнуць да гэтага) на тым, як няпроста (не новае падобнае сцвярджэнне, ды нічога не зробіш) заставацца чалавекам.

А яшчэ ў "Полымі" — завяршэнне рамана М. Сяднёва "Раман Корзюк". Пра гэты твор даводзілася гаварыць ужо, калі рабіўся агляд часопісаў за люты, дзе быў змешчаны яго пачатак. Цяпер жа, калі перагортваеш апошнія старонкі, не-не ды і задумваешся, а як бы добра было, калі б і паэзія Масея Ларыёнавіча, і два яго раманы былі перавыдадзены, а ў выніку атрымаўся б ладны трохтомнік аднаго з нашых таленавітых пісьменнікаў.

Задумваешся і разумееш, што на сённяшні дзень наўрад ці можна гэта ажыццявіць. Цяжкае, вельмі цяжкае становішча ў выдавецтваў...

**Цяжкае...**
**А мы — ускрай дарогі...**
**Што да гэтага дадаць?**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

меннікаў, як Й. Уотсан, Р. Жалязны, П. Мэрфі, У. Гібсак і інш., каб хоць бы ў фантастыцы не адстаць ад Захаду назаўсёды. Бянтэжыць толькі, што апавяданні гэтых аўтараў хоць і рэгулярна з'яўляюцца ў "Мегі", звычайна носяць авангардысцкі характар, занадта складаныя для радавога чытача і нярэдка цікавыя толькі спецыялістам вытанчанай славеснасці.

Вобразна кажучы, рэдакцыя трапляе рознымі нагамі ў розныя каляіны: з аднаго боку, яна стараецца друкаваць забаўляльную чытаніну, накшталт такой казкі для дарослых, як "Цацкі Тамізан" А. Нортана ці тых жа "Максараў"; з другога — ёй хочацца бліснуць высокаінтэлектуальнымі штучкамі, накшталт "Верытэ-драмы" Лі Кілоу або "Павольных птушак" Й. Уотсана; з трэцяга (прашу прабачэння за няцотную колькасць ног у рэдкалегіі) — змяшчаюць натуралістычна парнаграфічнае трызненне Н. Спінрада ("Хроніка Чумных Гадоў")... Пасля ўсяго гэтага застаецца зусім мала месца для традыцыйнай навуковай фантастыкі, якая — і гэта, як паказвае вопыт, ні ў якім разе не недахоп густу, а здаровая рэакцыя нармальнага чытача — і выклікае больш устойлівую цікавасць, чым мадэрнісцкія пошукі (не увесь жа час карміцца аднымі піражнымі — не шкодзіць зрэдку і хлеба пажаваць...).

Зразумела, крытыкаваць рэдактараў — гэта амаль тое, што пляваць супраць ветру і, мабыць, крыху горш, чым пляваць у калодзеж, але што яшчэ застаецца рабіць, калі ўзнікае ўражанне, што рэдактар быццам асцерагаецца паверыць свайму густу і чуццю (а гэтыя якасці ў яго ёсць, інакш ён не стаў бы рэдактарам) і, імкнучыся перастрахавацца змяшчае ў кожным нумары крыху рамана, крыху — рускай навелы, а ў якасці дэсерту — крышку замежнай. У выніку ў часопіс трапляе далёка не заўсёды лепшае нават з таго, што ёсць у рэдакцыйным партфелі. Падобна на выпадак са знакамітымі літаратурнымі прэміямі: кожны год даводзіцца выбіраць з таго, што ёсць, — а здараюцца гады, калі нават лепшае аказваецца трохі горшым, чым сярэдні леташні ўзровень...

Вось і выходзіць, што не надта многа добрых слоў можна сказаць пра апавяданні з двух разгледжаных нумароў. Узяць хоць бы "Увайсці ў раку" Л. Вяршыніна (N 1, 94). Даволі зацягнутае расказванне. Аб чым? Аб перасяленні душ? Аб тым, што кожная ўлада трымаецца на жорсткасці? Што будучыня схавана ад нас за цемрай невядомасці? Цяжка сказаць. У выніку ад твора застаецца адчуванне цяжкага неўразумення, хоць, магчыма, якраз таго і дамагаўся аўтар. Інакш цяжка растлумачыць бязмэтнае нагрувашчванне сюррэалістычных і натуралістычных падрабязнасцей, якімі перапоўнена апавяданне.

Яшчэ адно апавяданне таго ж нумара — "Мыс дохлага сабакі" А. Саламатава, які смела адкрывае вочы чытачу на непрагляднную жуду нашага быцця. Калі чытаеш апавяданне, напісанае, дарэчы, досыць прафесійна, увесь час прыкра ад агідных падрабязнасцей жыцця героя аповяда Нячайкіна, хаця не можа не ўражваць глыбіня філасофскіх пазнанняў аўтара. Зрэшты, апавяданне ўсё ж можна чытаць, хоць у ім амаль нічога не адбываецца. Ну, пацiскаў герой у закуту цэха Прохараву, якая "...была здаровай прыгожай бабай... з каласальнымі грудзьмі"... Уяўляеце гэтую Венеру Заводскую? Усё ж не без гумару аўтар. Нашага героя зашпунтоўваюць у бочку (арыгінальная знаходка, калі не помніць казкі пра цара Салтана), кідаюць у раку, і ён трапляе ці то на сваю фабрыку, ці то ў паралельны свет. Вось, выходзіць, чаму апавяданне аднесена да жанру фантастыкі. А то бачыш у ім толькі мастацкае асэнсаванне нашай рэчаіснасці.

Многія апавяданні ў двух нумарах "Мегі" за 1994 год — гэта нават не навуковая фантастыка, а класічныя прытчы, злёгку замаскаваныя пад яе (прытча ў дадзеным выпадку — невялікі павучальны твор, які ілюструе які-небудзь радок з табліцы множання). Так, "Ату! Ату" С. Булыгі (N 2, 94) пераканаўча паказвае, наколькі цяжкае жыццё самотнага ваўка, якога выгналі з роднага калектыву, калі ў яго з'явіліся лебядзіныя крылы. Навела Лі Кілоу "Свята багіні" настолькі палка абараняе права чалавека вызначаць свой лёс, што міжволі пагаджаешся з гераіняй, хоць яе выбар выглядае не надта прывабным. Затое атрымліваеш яшчэ адзін доказ тэзіса аб адноснасці ўсяго на свеце.

Не хацелася б, каб гэтыя нататкі былі зразумелыя як катэгарычнае патрабаванне новых ідэй у кожным навукова-фантастычным творы. Вядома, гэта проста нерэальна. Кожная рэч, нават напісаная на самую збітую тэму, заслугоўвае ўвагі, калі аўтар здольны арыгінальна і па-новаму зірнуць на даўно вядомае, удыхнуць свежы струмень у затхлае паветра звычнага і традыцыйнага. Важна пры гэтым пачуццё меры, ды і невялікая часцінка таленту пажадана, на благі канец — прафесіяналізм... Сумны вынік атрымліваецца, калі аўтар учапіўся за прывабны яму сюжэт і ператварае апавяданне ў прымітыўную ілюстрацыю адзінай ідэі, нават калі сама ідэя і не выклікае пратэсту. Наўрад ці мае сэнс імкненне да новага дзеля новага, калі аўтар адчувае вялікую асалоду ад сваіх знаходак, ператвараецца ў такуючага глушца і забывае пра чытача. Нярэдка імкненне да арыгінальнасці, да неапраўданага ўскладнення твора якраз і прыводзіць да процілеглага выніку — чытачу робіцца проста сумна.

Пакідаючы ўбаку мастацкія творы "Мегі" за мінулы год, хочацца адзначыць некалькі арыгінальных знаходак рэдактараў у размяшчэнні матэрыялу і афармленні часопіса.

Па-першае, прыемна, што думкі пра фантастыку, якія належаць знакамітаму амерыканскаму фантасту, складальніку анталогій і г. д. і г. д. Джэймсу Гану (гл. N 2, 94), былі надрукаваныя на самым пачэсным месцы ў рубрыцы "Зялёная планета" побач з такімі класікамі жанру, як А. Куўшынаў (13 год), І. Якавішын (10-ы клас) і інш. А што? Знайшлі свяціла! Праўда, застаецца незразумелым, чаму рэдакцыя, рашуча паставіўшы Гана на месца ("проста нейкі інтрыГАН!"), пасаромелася абвясціць чытачу ў змесце аб сваіх паважлівых адносінах да мэтра. А там няма не толькі Гана, а нават рубрыкі "Зялёная планета". А шкада...

Наступным дзіўным сюрпрызам стала друкаванне падборкі цытат з прысланых у рэдакцыю твораў — раздзела "Літаратар пaлісвае" (гл. N 1, 94). Магчыма, змешчаныя тут глыбокія думкі вельмі спадабаліся рэдактарам, і тыя, баючыся, што чытач можа выпадкова не звярнуць на вытрымкі ўвагі, вырашылі апець іх яшчэ раз (гл. N 2, 94). Рэдакцыі трэба падумаць над тым, каб прадоўжыць друкаваць тыя перлы і ва ўсіх наступных нумарах.

Дарэчы, аб раздзелах і рубрыках часопіса. На жаль, не толькі ў "Ф-М", але і ў іншых перыядычных выданнях яны звычайна нясуць невялікую сэнсавую нагрузку (узяць хоць бы расійскі часопіс фантастыкі "Если", які дае чытачу размеркаванне твораў нумара па такіх рубрыках, як "Матыў", "Збор дадзеных", "Гіпотэза", "Эксперымент", "Вынік"). Канешне, у "Ф-М" сярод 4-5 дзесяткаў (!) рубрык ёсць і такія, ужыванне якіх зусім не апраўдана (хоць не ўсе яны зразумелыя чытачу), напрыклад, "Кинотавр" (гэта, вядома, кінакрытыка), "ИНОстранное" і замежнае, і часта вельмі дзіўнае), "Фантики" (пасля першага знаёмства змест раздзела становіцца не толькі зразумелым, але і надта прывабным, і яго шукаеш у кожным наступным нумары). Ды толькі чым растлумачыць, што ў адным выпадку перакладзенае апавяданне трапляе ў "Атлас звезд" (Л. Шэпард "Чалавек, які расфарбаваў дракона Грыаўля", N 6, 93), а ў другім — у рубрыцы "Субъектив-НО" (Ф. Пол "Памерці шчаслівым", N 26, 94)? Гэта незразумела і здольна выклікаць раздражненне нават у вельмі міралюбна настроенага чытача. А "Каўчэг на другой лініі" Н. Раманецкага, калі меркаваць па змесце, увогуле апынуўся ў рубрыцы "Стихия", якая мае непасрэдныя адносіны да паэзіі. Узнікае ўражанне, што рубрыкацыя для членаў рэдкалегіі — нейкая разнавіднасць інтэлектуальнай гульні.

Цяпер, выліўшы раздражненне з прычыны розных дробязей, можна вярнуцца і да таго, што, на наш погляд, было ў двух апошніх нумарах "Мегі" ўдалага. Перш за ўсё, яркай плямай на досыць шэрым фоне з'яўляецца апавяданне Пялевіна "Іван Кублаханаў". Гэта не зусім фантастыка, згодзен, але няма сумнення, што гэта разумнае, тонкае і сумнае эсэ аб жыцці, нараджэнні і смерці чалавека. Добрай фантастыкай з'яўляецца "Каўчэг на другой лініі" Раманецкага — жудасная, з апакаліптычным прысмакам гісторыя з вельмі рэльефным вобразам галоўнай дзеючай асобы.

Цікавае і апавяданне Р. Жалязнага "Вечная мерзлата", у якім аўтар яшчэ раз бліснуў сваёй здольнасцю ствараць эпічнае палатно на досыць стандартным зыходным матэрыяле (хоць апавяданне і здалося слабейшым, чым знакамітая "Ружа для Эклезіяста", — дарэчы, таксама трапіўшая ў "Мегу"). Даволі заблытаны (магчыма, па віне перакладчыка) сюжэт апавядання Д. Брына "Паталкуем аб лятаючых талерках, кораш", але гэты недахоп цалкам кампенсуецца вобразнай мовай аўтара і своеасаблівым гумарам.

Як заўсёды, цудоўны ў разглядаемых нумарах раздзел "Ф-арт", які змяшчае не толькі цікавую інфармацыю, але і амаль бездакорны ў эстэтычных адносінах (дарэчы, менавіта дзякуючы гэтаму раздзелу мы пазнаёміліся з творчасцю такіх неардынарных беларускіх мастакоў, як В. Славук, М. Селяшчук, А. Крамнёў і інш.). Змястоўнымі і прыцягальнымі выглядаюць матэрыялы аб творчасці Ф. Пола і Ф. Дзіка на ўнутраным баку вокладкі часопіса. Зрэшты, "Мега" заўсёды друкавала на сваіх старонках якасную інфармацыю на каляфантастычныя тэмы; яе ўзровень іншы раз нават перавышае ўзровень мастацкіх твораў.

Нельга не сказаць і некалькі добрых слоў аб знешнім выглядзе часопіса. "Мега" ўрэшце набыла свой твар. Прыемна — паласатая зебрападобная вокладка з трохкутным малюнкам і кароткай інфармацыяй аб змесце нумара прыцягвае ўвагу нават сярод сённяшняй стракатасці часопісных кіёскаў.

На заканчэнне хацелася б дадаць, што зараз рэдкалегія ўжо можа не хвалявацца аб стварэнні аўтарытэту часопіса. "Мега" і так досыць аўтарытэтная сярод спецыялістаў і... Вось тут пяро міжволі спатыкаецца, хацелася б дадаць — і чытачоў, але.... Некалькі захапіўшыся наватарскімі пошукамі, рэдкалегія сур'ёзна забылася пра масавага чытача (ды яго і не было — успомнім тыраж часопіса); зараз жа яна наўрад ці можа дазволіць сабе нядаўняе прывольнае жыццё. Мабыць, на гэтым шляху рэдактарам неабходна пажадаць мужнасці праводзіць адну лінію: друкаваць тое, што сапраўды цікавае, не клапоцячыся аб тым, каб даць кожнай сястрыцы па завушніцы. Ёсць у партфелі цікавы раман — хай будзе раман амаль на ўвесь нумар, ёсць добрыя пераклады — хай будзе нумар з адных перакладаў. І гэтак далей, і таму падобнае...

**Ігар НАЙДЗЕНКАЎ,**
**кандыдат геолага-мінералагічных навук**

**Ад рэдакцыі.** Мы таксама "сярдзітыя" на "беларускую" навуковую фантастыку і "Фантакрым-Мегу" ў прыватнасці, але зусім па іншай прычыне: з-за яе пагалоўнай рускамоўнасці. Зрэшты, калі пакласці ў аснову вызначэння "беларускасці" геаграфічны момант, то ёсць падставы лічыць гэтую літаратуру беларускай. У любым выпадку пазнавальнае значэнне артыкула І. Найдзенкава аспрэчыць нельга.

## ВАРЫЯЦЫІ НА ТЭМУ МАРАНДЗІ



**У Нацыянальнай мастацкай галерэі працуе выстава "Ад Марандзі". Амаль год ішлі да яе маладыя жывапісцы Аляксандр Барташэвіч і Андрэй Бур'як. Упершыню ў беларускім мастацтве распрацавана тэма інтэрпрэтацыі — адна з асноўных у сусветнай культуры XX стагоддзя.**

**Выдатны італьянскі мастак застаўся сучасным для нас па сваіх поглядах на жыццё і мастацтва. Праз форму простых рэчаў, чысціню жывапіснай прасторы ён выразна паведаміў свету пра чалавечую годнасць у час вялікіх катаклізмаў напярэдадні другой сусветнай вайны. Яго нягучны голас аказаўся пераканаўчым.**

**Такая пазіцыя і дасканаласць жывапісных рашэнняў натхнілі маладых беларускіх мастакоў на стварэнне сваіх, самастойных палотнаў. Пры напісанні іх станоўчую ролю адыграў таксама і ўплыў народнай беларускай керамікі, якая вылучаецца манументальнасцю і выразнай архітэктонікай.**

**Творы Барташэвіча і Бур'яка "адбыліся" ў плыні развіцця і працягу традыцый беларускай культуры, якая заўсёды чуйна адгукалася на лепшыя праявы чалавечага генія і заставалася са сваёй непаўторнасцю і своеасаблівасцю.**



**Выставу падтрымаў дабрачынны фонд "Яднанне", дапамога якога і стала вырашальнай для яе адкрыцця.**

Ларыса САЛОДКІНА

*На здымках: А. Барташэвіч, "Нацюрморт". А. Бур'як, "Нацюрморт".*

*Фота Ж. МАЁРАВАЙ*

## ВЯСНОВЫ БУКЕТ МУЗЫКІ

**Яўген Гладкоў вядомы ў рэспубліцы як энтузіяст беларускіх цымбалаў, артыст, педагог. Гэта рознабаковы музыкант, здольны захапіць сваёй ідэяй, даказаць яе рэальнасць і ажыццявіць. Толькі адно тое, што не без намаганняў Гладкова ў Мінску плануецца сусветны кангрэс цымбалістаў, — красамоўнае сведчанне яго музыканцкага аўтарытэту.**

**Гладкоў не абмяжоўвае сябе роляй папулярызатара любімага інструмента. На яго ўскладзена (і гэта ён усведамляе!) больш высокая місія: увесці цымбалы, пазначаныя пячаткай "фальклорнаэтнаграфічнасці", у сям'ю "цывілізаваных" інструментаў.**

**Канцэрт народнага артыста Беларусі прафесара Яўгена Гладкова ў Лідскім музвучылішчы быў захапляючым! Гучала старадаўняя англійская ды італьянская музыка, творы Ф. Ліста ды А. Шнітке, В. Войціка ды Я. Глебава і, вядома, папулярныя п'есы. Адным словам, маэстра падарыў публіцы вясновы букет музыкі. У адказ лідчане паднеслі яму сціплую фіялку — "Раманс" для двух цымбалаў і фартэпіяна Веранікі Швец, які выканалі выкладчыкі вучылішча Зоя Булатава, Уладзімір Дубіцкі ды аўтарка твора. Так, у Лідзе ўмеюць ператварыць звычайны канцэрт у свята. Тут шануюць беларускае мастацтва і захоплена апладзіруюць таленавітым артыстам.**

Віталь РАДЗІЁНАЎ,
старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны

# БОЯЗЬ НОВАЙ СВАБОДЫ?

## НАТАТКІ З "ПАНАРАМЫ НОВАГА БЕЛАРУСКАГА КІНО"

НА ФОНЕ модных цяпер разнастайных вернісажаў, выстаў, прэзентацый фестываль з нягучнай назвай "Панарама новага беларускага кіно", можа, і не трапіў у поле пільнага зроку шырокай творчай грамадскасці. Але для кінаколаў ён зрабіўся буйной падзеяй. Не толькі таму, што ўпершыню за апошнія два з паловай гады адкрылася магчымасць убачыць стужкі, пра якія не даведаешся у нашых кінатэатрах. Бо кінапракат — успомнім Феліні! — нагадвае той знакаміты карабель, які плыве і плыве сабе курсам, усё больш далёкім ад беларускай кінакультуры. "Панарама", і з гэтым пагадзіліся многія, разбурыла той міф, які кінематаграфісты, людзі, вядома ж, з багатай фантазіяй, старанна мацавалі ў нядаўнія часы. На рэштках гэтага міфа выявілася шмат чаго цікавага. Напрыклад, хто хацеў ставіць фільмы, той іх... ставіў. Нягледзячы на тое, што грошы на кінавытворчасць дзяржава дарыла зусім не шчодрай рукой. Шукаліся і знаходзіліся іншыя крыніцы фінансавання. Магчыма, грошы часам мелі, мякка кажучы, не надта высакароднае паходжанне. Аднак яны былі! Стыхійна, без урадавых пастаноў і рашэнняў, пачала складацца новая, адпаведная рынкавым прынцыпам інфраструктура кінавытворчасці. І, што яшчэ больш важнае, з'явіліся ўмовы для канкурэнцыі! Пакуль, праўда, яна таксама... стыхійная. І фільмы, якія зроблены на грошы "ад спонсара", не заўсёды заслугоўваюць абмеркавання як творы мастацтва. Але тое ж самае, на жаль, можна сказаць і пра карціны, якія здымаюцца на грошы "ад дзяржавы". Нялёгка, ой як нялёгка было сумясціць у бурлівай дыскусіі ўражанні ад 38 ігравых, 80 дакументальных, 13 анімацыйных і вучэбных карцін, якія ўвайшлі ў праграму кінаагляду...

### СЮЖЭТ ПЕРШЫ: РАНЕЙ І ЦЯПЕР.

Народны паэт Беларусі **Рыгор Барадулін**, які ўзначаліў журы іграваога фільма, сказаў так:

— Гэты фестываль назвалі "Панарамай новага беларускага кіно". Пакуль пра "новае" гаварыць рана. Пра "постсавецкае" — у самы раз. Раней быў адзіны спонсар — КПСС, цяпер такіх многа. Але ці на карысць гэта экрану? Тут трэба яшчэ падумаць... Ці пытанне з экранізацыяй беларускай літаратуры. Раней кінастудыя "Беларусьфільм" працавала на тых сцэнарных адходах, якія заставаліся ад Масквы. Цяпер, калі кінематаграфісты звяртаюцца да ўласнай літаратуры, яна апынаецца ў разгубленасці. У найменш выйгрышнай сітуацыі, як і раней, працягваюць быць аўтары літаратурных твораў. Спрэчка, якая разгортваецца паміж пісьменнікам, сцэнарыстам, рэжысёрам, заканчваецца часцей не на карысць літаратурнаму твору. Гэта тычыцца і "Шляхціца Завальні", і "Чорнага бусла" Віктара Турава. Здаецца, і рэжысёр не ведае, як так атрымалася, што са сцэнарыя Ф. Конева па "Завальні" знік дух Баршчэўскага. Нібыта ў фільме закладзена цікавае ідовішча. Аднак не хапіла той беларускасці, якой дыхае слова Яна Баршчэўскага. Думаю, што і сцэнарый "Чорнага бусла" Віктар Казько мог бы пісаць сам, каб данесці да экраннага ўвасаблення свае задумкі. Бо кінадраматургія павінна ствараца па законах натхнення, як гэта адбываецца ў літаратуры. У чым жа сёння разыходзяцца шляхі беларускага экрана і беларускай літаратуры? Прычына, думаю, у тым, што сцэнарыі павінны ствараца на беларускай мове. І здымацца карціна павінна адразу на беларускай мове, а не перакладацца потым. Тады, напэўна, і з'явяцца ў нас фільмы, якія праз нацыянальнае будуць выходзіць на сусветны экран. І тым будуць цікавымі для сусветнага гле-дача.

Лаўрэат і прызёр многіх міжнародных кінафестываляў, рэжысёр **Віктар Тураў** бачыць сітуацыю інакш:

— Хачу не пагадзіцца з Рыгорам Іванавічам. Хачу абараніць беларускае кіно ад незаслужаных папрокаў у нейкай "пракамуністычнасці". Нельга спісваць усё, што зроблена нашым кінамастацтвам, у архіў гісторыі ці ў ідэалагічны сметнік. На фільмах Ула-дзіміра Голуба, а яму цяпер 90 гадоў, напрыклад, выхоўваліся і вы, гэта я ведаю дакладна. Не ўпэўнены, што трэба пераасэнсаваць каштоўнасці. На жаль, мы развучыліся гаварыць шчыра, асабліва ў апошнія гады, калі перажылі і боль, і крызіс, і расчараванне. Цяпер бачна, што часцей апошнія няпростыя гады не былі добрымі, лепш нашаму кіно не стала. А яно ў нас не было горшым. Наадварот. Мне пашанцавала трапіць з фільмам "Праз могілкі" ў спіс 100 лепшых фільмаў усіх краін і народаў, які па лініі ЮНЕСКА склалі да стагоддзя сусветнага кінематографа. І я думаю, што гэта невыпадкова. Не таму, што гэта менавіта мой фільм. А таму, што такім чынам падкрэсліваецца, што беларускае кінамастацтва ёсць, яно было ў савецкія гады. Мы былі шчырымі тады, калі звярталіся да характару, да вобраза, да сюжэта, якія неслі святло з экрана. Дай, Божа, захаваць нам гэта сёння, не бегчы за чужымі фільмамі, за нейкім сярэднестатычным еўрапейскім кіно.

**Каментарый аўтара.** Сутыкненне, як быццам, супярэчлівых поглядаў — гэта таксама адзін з міфаў найноўшага часу. Міф лёгка страчвае сваю сілу, калі агледзішся навокал і ўбачыш, што ў сённяшнім кіно ці літаратуры — амаль аднолькава... Сталыя майстры, можа, упершыню пастаўлены перад неабходнасцю адказваць на складаныя пытанні мовай не ранейшага партыйнага сходу, а ўласнай творчасці. І гэта натуральна. Таму што сведчыць сама менш пра дзве каштоўныя рэчы: пра тое, што ўсё ж такі майстры ў нас ёсць. І пра тое, што рана ці позна, але надыходзіць час саступіць тым, хто ідзе ўслед...

### СЮЖЭТ ДРУГІ: СЁННЯ І ЗАЎТРА.

Многія думаюць, што ў тым сумным безграшоўі, ад якога пакутуе сістэма дзяржаўнага заказу на стварэнне фільмаў, пра будучыню нашага кіно ў маладых асобах можна толькі марыць. Сапраўды, не ўсім пачынаючым кінарэжысёрам, што атрымалі першыя айчынныя дыпломы па гэтай спецыяльнасці ў Беларускай акадэміі мастацтваў, пакуль пашанцавала зняць менавіта "дыпломны" фільм. Але іх курсавыя і вучэбныя работы, а, дарэчы, некаторыя з іх ужо бралі ўдзел у шэрагу міжнародных фестываляў і былі там адзначаны, выклікалі ў старшыні адпаведнага журы "Панарамы", заслужанага дзеяча мастацтваў **Аляксандра Карпава** такія ўражанні:

— Я апынуўся не ў самым ёмкім становішчы. Па ўмовах "Панарамы" журы павінна было размеркаваць толькі адзін ганаровы дыплом! Ці адзначаць усіх, ці не даваць нічога нікому. Тым больш, калі гаворка — пра моладзь. З задавальненнем прагледзелі мы работы студэнтаў, а цяпер выпускнікоў майстэрань іграваога і дакументальнага кіно пад кіраўніцтвам В. Турава і В. Дашука. Адчуванні, вядома, розныя. Аднак бачна, што падымаецца змена, што трэба шукаць магчымасці, каб маладыя здымалі, развівалі сябе, свае разуменні кінамастацтва. Ёсць, ёсць у кожнага нешта сваё. Асабліва кранула стужка Віктара Аслюка "Слёзы блуднага сына". Не адняць ад фільма жарсцяў, аўтарскага погляду на абраную тэму. Ды тэма якая! Звязана з гістарычным мінулым, з філасофскімі меркаваннямі, з асэнсаваннем чалавека-беларуса ў складаным часе. І малады рэжысёр знаходзіць для гэтай тэмы сваё рашэнне — спалучэнне дакументальнага і іграваога метадаў, смела працуе з акцёрам. Запомніўся фільм "Нюанс" Вячаслава Кулінічэнкі. Добры вонкавы малюнак у Ірыны Волах у "Шукальніках скарбаў" па творах У. Галубка і Я. Баршчэўскага. У іншых адчуваецца, што школу маюць, але ўласнае аблічча трэба яшчэ шукаць. Ёсць каму прымаць нашу справу. Так, "Беларусьфільм" нарадзіўся пры "той" эпосе, калі была цэнзура, але было і мастацтва. Напэўна, гэта яшчэ тэма заўтрашняга дня. Вось яе і трэба аддаць на творчае даследаванне моладзі.

Ідэю падхоплівае рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі **Міхаіл Пташук**:

— Думаць аб моладзі трэба было яшчэ ўчора. А сёння на кінастудыі хаця б адну вытворчую адзінку ў год трэба аддаваць маладым. Хай лепей малады "заваліць", дык яму яшчэ жыць і жыць. Што тычыцца самога гэтага кінаагляду, дык не ўсё ў ім прадумалі. Рэальнага выніку пакуль не бачу. Сабраліся, паглядзелі карціны, а далей што? Трэба не менш за два разы на год право-дзіць падобныя фестывалі. Тады і бачна будзе, якія дачыненні ў нашага кіно з нацыянальнай літаратурай, у чым праблемы стварэння карцін на беларускай мове, нарэшце, як усё ж такі зрабіць, каб беларускія фільмы траплялі ў беларускі кінапракат. Глядач нашага кіно не бачыць і не ведае. Не дужа добра і мы пакуль ведаем, чым заклапочаны наш глядач.

**Каментарый аўтара.** Заўсёды б так. Калі зроблена нешта слушнае, як тая самая "Панарама", дык крытыкі іншы раз прагучыць больш, чым калі б нічога не рабілася наогул. Апошні штогадовы традыцыйны кінаагляд беларускіх фільмаў адбыўся на пачатку 1992 года. І глядзелі тады карціны за 1991 год. Тое, што кінематограф са справы дзяржаўнай усё больш ператвараецца ў справу грамадскую, бачна нават простым вокам, без кінаоптыкі. Ідэя правядзення "Панарамы" зыходзіла ад Саюза кінематаграфістаў рэспублікі, які разам з шэрагам незалежных студый даў жыццё спецыяльна створанай для фестывальнага руху структуры — "Белфэсту". Сяргей Арцімовіч, які, па-мойму, у адзінай асобе прадстаўляе гэты "Белфэст", зрабіў вельмі многае, каб знайсці спонсараў — Беларускі гандлёва-фінансавы саюз і банк "Капітал"; дырэктар мінскага кінатэатра "Перамога" Р. Крол стварыў пэўныя ўмовы для прагляду мастацкіх стужак і работы журы. Дапамагло грамадскай справе і Міністэрства культуры і друку.

Такім чынам, разбураны яшчэ адзін папулярны міф — выратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў. Захочаш выжыць — навучышся плаваць...

### ТРЭЦІ СЮЖЭТ: КІНО І СТАСУНКІ З РЭАЛЬНАСЦЮ.

Развіваючы гэтую тэму, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, рэжысёр **Вечаслаў Нікіфараў** падкінуў на абмеркаванне ўдалую думку: у сённяшніх умовах ніхто не застрахаваны і ад шэдэўра. Калі гэтую думку ўштукаваць у канструктыўны кантэкст "круглага стала", дык становішча з шэдэўрамі выклікае пачуццё вялікай нявызначанасці. Прыслухаемся да аналізу кінакрытыкаў.

**Вольга Нячай**, доктар мастацтвазнаўства, прафесар:

— Вяршыня беларускага кіно, і гэта агульна прызнаны факт, — 60-ыя гады. Гэта быў час, калі прыйшлі сённяшнія майстры: В. Тураў, І. Дабралюбаў, Б. Сцяпанаў (на жаль, ужо нябожчык). Потым быў узлёт, які звязаны з фільмамі В. Рыбарава, Э. Клімава ў 80-ыя. Што ж цяпер уяўляе сабой беларускае кіно? На маю думку, яно — трава, якая прабілася праз асфальт — калі трэба прыстасавацца, выжыць. З'яўляецца парода "новых беларусаў", падобных да мутантаў. Гэта — рынкавы, базарны ўзровень выжывання. У праграме "Панарамы" цэлы блок фільмаў, у якіх эвалюцыянуе гэты сацыяльны герой — біялагічны робат: "лох", "гладыятар па найму", "кілер", "манекеншчыца". Гэтыя персанажы быццам бы асуджаюцца. На самай справе яны прыцягваюць увагу. Парушаны межы між дабром і злом, якія ўпершыню былі зафіксаваны Уладзімірам Дашуком у фільме "Грэх" (ён паказаў хлопца, які рабуе

## НА БЕЛАЙ ДАЧЫ — НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА

**Арыгінальную самаробную біжутэрыю, ювелірна аздобленыя, размаляваныя яйкі, сувеніры з дрэва, саломкі, цукерачніцы і хлебніцы з лазы, тканыя посцілкі, вышываныя ручнікі — усё гэта можна ўбачыць на выставе, якая адчынілася напярэдадні свята Перамогі на "Белай дачы", што за апошнія гады стала ў Мінску сапраўдным цэнтрам народнага мастацтва. Наладзілі выставу мастацкі салон "Славутасць" (А. Спірыдонавай), які добра ведаюць тыя, хто наведваў апошнія экспазіцыі ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры і Беларускім інстытуце праблем культуры. Выставы-продажы ў музеі сведчаць, што саламяныя конікі, куфэрачкі, званочкі В. Салдатавай, А. Крэсік, карункавыя кветкі Л. Івановай, разьба па дрэве Б. Шашко, вырабы**



**іншых майстроў карыстаюцца сёння папулярнасцю не толькі ў знаўцаў, але і ў людзей з грашыма. Паступова мы пачынаем усведамляць сапраўдную каштоўнасць унікальных самаробных рэчаў, у якіх адбіліся і душа асобнага майстра, і даўнейшыя традыцыі, а значыць душа ўсяго нашага народа. Можа, убачаныя на "Белай дачы" саламяныя капелюшы, узоры традыцыйных ручнікоў і посцілак ці набытыя ў салоне "Славутасць" званочак для каляднай ялінкі дапамогуць камусьці абудзіць генетычную памяць, адчуць сябе беларусам, годным і вольным гаспадаром вольнай зямлі.**

**Побач з творамі нашых народных майстроў — габелены маладой мастачкі Л. Спяранскай, якая нарадзілася ў Пензе, але цяпер жыве і працуе на Беларусі. Экспрэсіўныя, насычаныя па каларыце нацюрморты, краявіды, кампазіцыі дадаюць новыя акорды да нягучнай, стрыманай мелодыі выставы народных майстроў.**

**Г. Б.**

*Кошыкі І. Гурыновіч.*
*"Інтарсія" В. Ігнатоўскага.*
*Габелен "Сіры" Л. Спяранскай.*
*Фота А. МАЦЮША*

# ЛОЗУНГ — НЕ САСТАРЭЎ

Прачытаў у "ЛіМе" рэцэнзію на "Масееву кнігу" і вырашыў абавязкова яе набыць. Праз час маё жаданне было пасляхова задаволена. Да таго ж рэальнае ўражанне ад прачытанага прыемна адпавядала чаканаму.

Аўтар дасягнуў мэты ў спробе "выказаць сваё патаемнае, чутае душой". Прывабліваюць сталасць і жыццёвая мудрасць, некрывадушнасць думак М. Сяднёва. Хвалюешся і пакутуеш разам з аўтарам, падзяляеш ягоны боль за страты Бацькаўшчыны, за гаротныя лёсы яе верных сыноў — сяброў пісьменніка.

Непадробная шчырасць аўтара робіць кнігу захапляльнай і карыснай для тых, хто неабыякава ставіцца і да пытанняў нацыянальнай культуры. "Масеева кніга" — кніга роздуму. Твор нельга прачытаць і пакінуць, да яго неабходна звяртацца праз час, пераасэнсоўваць думкі аўтара, спрачацца з імі.

Менавіта з гэтай нагоды жадаю адзначыць іншае: тлумачэнне ім эпіграфа "Людзьмі звацца!" у выданнях "ЛіМа" за 1990—1993 гады (замест былога "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!").

Масей Сяднёў выказвае спачувальную незадаволенасць у сувязі з існаваннем апошняга. Сэнс яго лічыць неадпаведным патрабаванням часу, крытыкуе за анахранічнасць. Але ж хвілінку. Ці такі непатрэбны ён быў?

Народжаны натхненнем беларускага класіка фразеалагізм заўсёды ўспрымаўся як троп. Зразумела, мы ўжо паводле свайго нараджэння — людзі. Але словазлучэнне — заклік да ўсведамлення неабходнасці нацыянальна-духоўнага нараджэння беларусаў, заклік да набыцця намі адпаведных чалавечаму існаванню культурна-рэгіянальных асаблівасцей. "Усе мы людзі, ды не ўсе чалавекі". Гэта значыць, паводле Ул. Даля, — "роду чалавечага, але без чалавечай годнасці". І, як складніка яе, годнасці вышэйшай за асабістую, дзяржаўнай. Пазбаўленыя магчымасці ганарыцца апошняй, беларусы на пачатку XX стагоддзя падалі свой голас. Калі раней мы жадалі, але не здолелі, то зараз здолеем, калі будзе жаданне. Ды няма яго. Няма, таму што не прачнуліся яшчэ, не абудзіліся. Нават святло абвешчанай у жніўні 1991 года незалежнасці не пазбаўляе нашы душы адчувальных выдаткаў былой бальшавіцкай анексіі.

Атрыбутам кожнага "чалавека сучаснага" з'яўляецца ўсведамленне прыналежнасці да адпаведнай нацыі. На карысць і дабрабыт яе ён, паводле гістарычна складзеных традыцый, свядома здолее ахвяраваць нечым уласным. Але рост нацыянальных парасткаў, меўшы адбыцца на лецішчах некалькіх пакаленняў беларусаў, "ушанаваў" нас ганебным пустазеллем нацыянальнага цынізму. Глыбока ён пусціў карэнне і расцвіў у нашых душах...

Ці можам мы, у такім выпадку, лічыць сябе сапраўды паўнавартаснымі, каб утварыць нацыю? На маю думку — не. Спачатку трэба прыйсці да сябе. Прыйсці да Беларусі. Прыйсці праз невычарпальную культуру і гістарычную шматвяковую спадчыну, каб людзьмі звацца. Каб звацца беларусамі — і не саромецца свайго імя.

**Дзмітрый ІЗАФАТАЎ,**
**настаўнік**

*г. Віцебск*

# МЫ Ў ГЭТЫМ МАТЭРЫЯЛЬНЫМ СВЕЦЕ

*(Пачатак на стар. 5)*

— Вельмі мала. Нашы гарадскія і абласныя аддзяленні працуюць на грамадскіх пачатках. Нават юрысты, што нас абслугоўваюць, зарплаты таксама не атрымліваюць.

**— Сорамна прызнавацца, але асабіста я даведаўся пра ваша таварыства выпадкова. Відаць, адна з найважнейшых задач, што стаяць перад ім, — пашыраць сферу сваёй дзейнасці, больш заяўляць пра сябе, каб, фігуральна кажучы, і дзядзька Вася з далёкай вёсачкі ведаў, што ёсць арганізацыя, якая можа абараніць яго правы.**

— Так, гэта важная праблема, і мы па меры сваіх сіл імкнёмся яе вырашыць. Але не трэба думаць, што таварыства наша — малавядомае. Да нас шмат звяртаюцца. Што тычыцца "дзядзькі Васі", дык нядаўна нам пазваніў адзін вясковы жыхар і паскардзіўся, што яшчэ ў кастрычніку мінулага года здаў на мясакамбінат карову, дзе яму выпісалі накладную і абяцалі праз месяц выплаціць грошы, але прайшло ўжо больш за паўгода, а грошай чалавек так і не атрымаў.

**— Яму, відаць, трэба было адразу звярнуцца ў суд...**

— З дапамогай нашых юрыстаў, якія аформілі яму неабходныя дакументы, ён гэта і зрабіў.

**— Я бачу, што няма такой жыццёвай сітуацыі, якая б не вымагала ўмяшання вашага таварыства.**

— Так. Ад нагаданай каровы да банкаўскіх паслуг.

**— Банкаўскіх — у якім сэнсе?**

— У самым прамым. Вы помніце, як у 1991 годзе перад лібералізацыяй цэн у адзін момант ушчэнт абясцэніліся грашовыя ўклады ў ашчадных банках дзесяткаў тысяч людзей. Іх там элементарна падманулі. І ніхто за гэта адказнасці не панёс. Праўда, цяпер і прэзідэнт наш Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, і народныя дэпутаты абяцаюць неяк гэтыя страты кампенсаваць. Хоць нічога канкрэтнага мы ад іх не пачулі.

**— Дык вы хочаце дамагчыся таго, чаго не можа зрабіць прэзідэнт? Ці я не так вас зразумеў?**

— Справа ў тым, што падман гэты працягваецца і сёння. Акрамя дзяржаўнага банка, у яго ўключыліся і банкі камерцыйныя.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— А тое, што банк, паабяцаўшы выплаціць сваім укладчыкам пэўны працэнт, слова свайго не стрымлівае і ў аднабаковым парадку працэнт гэты змяншае, паставіўшы кліентаў перад фактам. Такога не можа здарыцца ні ў адной цывілізаванай краіне. Інакш кліент будзе абмінаць банк, які парушыў дагавор з ім, за сто кіламетраў. А гэта для банка — смерць. У нас жа ўкладчык абсалютна бяспраўны. Вось і здзекуюцца з яго. Нядаўна мне звоніць грамадзянін і распавядае, што зрабіў грашовы ўклад у банк "Еўрапейскі" пад 400 працэнтаў гадавых, а калі прыйшоў туды "здымаць" працэнты, даведаўся, што ўмовы змяніліся і разлік з ім будзе праводзіцца па куды меншай працэнтнай стаўцы.

**— Мне здаецца, што вы тут нічым яму не дапаможаце. Гэта ўсё, як я чуў, робіцца па распараджэнні Нацбанка.**

— Але ж і маўчаць нельга. Мы параілі падаць на той банк іск у суд. Разумееце, у чым справа? У нашай краіне дагэтуль няма закона аб абароне правоў укладчыкаў. Ва ўсіх цывілізаваных краінах такія законы ёсць.

**— Я вось слухаю вас, і думаю, як усё-такі ў нашым Вярхоўным Савеце была слаба наладжана заканатворчая праца. Менавіта гэтым павінен быў займацца наш парламент, а не палітычнымі баталіямі.**

— У такіх краінах, як Японія, Англія, Злучаныя Штаты Амерыкі, Францыя і іншыя, даўно прыняты і дзейнічаюць да пяцідзесяці законаў, што тычацца спажывецкай сферы ў медыцыне, гандлі, транспарце, банкаўска-фінансавай дзейнасці і г. д.

**— Але нам ад гэтага не лягчэй. У нас пакуль што, напрыклад, у той жа сферы гандлю поўны "беспредел". Ведаеце, я заўсёды ўважліва праглядаю дадатак да газеты "Известия" — "Экспертиза", дзе даецца характарыстыка якасці многіх хадавых тавараў як айчыннага, так і імпартнага паходжання. Чытаеш і жахаешся, — столькі сярод гэтай разнастайнай электроннай тэхнікі, мясных, малочных, кандытарскіх і спірта-гарэлачных вырабаў усемагчымых падробак, фальсіфікаваных сертыфікатаў і г. д. А ў нас хіба ўсяго гэтага меней? Хто вам сёння дасць гарантыю, што, купляючы ў камерцыйнай краме прыгожую бутэльку імпартнага віна, вы не пачастуецеся нейкім самаробным пойлам? Помніце, як у нас раскупляўся фінскі спірт "Роял", які аказаўся не харчовым, а тэхнічным?**

— Вы тут маеце рацыю. Але не так лёгка, як здаецца, выкрыць махляроў. Справа ў тым, што амаль усе ўстановы, якія ў былым Савецкім Саюзе займаліся экспертызай тавараў і былі падначалены "Дзяржстандарту", сканцэнтраваны ў Маскве. Сёння яны працуюць пад шыльдамі "Расэкспертыза", "Растэст", "Магнолія" і інш. У нас жа падобных устаноў няма. Праўда, ёсць некалькі спецыялізаваных лабараторый па праверцы харчовых прадуктаў, ды і то толькі шляхам аргапалептычнага метаду, г. зн. па колеры, паху, смаку. Наша санэпідэмслужба не мае сучаснага абсталявання, якое б давала магчымасць выяўляць у прадуктах таксічныя рэчывы, металы, элементы радыеактыўнага забруджвання і г. д. У нас нават няма дзе праверыць на ўтрыманне шкодных рэчываў табачныя вырабы (і імпартных і сваіх).

**— Даруйце, але, наколькі я ведаю, увесь імпарт праходзіць праз мытны прагляд...**

— Праходзіць. Але, паводле існуючага заканадаўства, мытня прапускае тавары, забяспечаныя сертыфікатам якасці вытворцы. Правяраць адпаведнасць падобнага сертыфікату сапраўднай якасці тавару ў абавязкі мытні не ўваходзіць. А трэба, каб першы кантроль за якасцю быў наладжаны менавіта там.

Вось сітуацыя, з якой мы сёння часта сустракаемся. Нейкі камерсант па заказе гандлёвай арганізацыі закупляе, напрыклад, у Польшчы аўтафуру з шакаладам. На мытні ён прад'яўляе сертыфікат якасці, падпісаны вытворцам, і атрымлівае зялёны агеньчык на шляху ў краіну. Але заказчык, пабачыўшы тавар, адмаўляецца яго прымаць, бо той шакалад увесь у цвілі. Вы думаеце, наш камерсант тут жа выкіне яго на сметнік? Вядома ж, не. Ён павязе гэтую падсапсаваную "смакату" куды-небудзь у раён і там "штурхане".

**— І што, няма каму такую прадукцыю ў яго канфіскаваць, ды яшчэ прыцягнуць да адказнасці за распаўсюджанне атруты?**

— У нас няма закона, які б дазваляў гэта рабіць. Дарэчы, нядаўна мы разам з калегамі з Расіі і Украіны правялі акцыю пад умоўнай назвай "Соні". Справа ў тым, што тэлевізары славутай японскай фірмы "Соні" завозяцца да нас з трэціх краін — Арабскіх Эміратаў, Турцыі і іншых месцаў, дзе іх збіраюць па японскай ліцэнзіі. І сталася так, што распаўсюджваліся тыя "Соні" ў нас без наладжвання гарантыйнага абслугоўвання гэтых апаратаў. Не буду расказваць пра ўсе нашы захады ў гэтай справе, але гарантыйнае абслугоўванне тэлевізараў гэтай маркі мы разам з Расіяй і Украінай наладзілі.

Яшчэ адзін наш галаўны боль — вулічны гандаль, усе гэтыя так званыя "камкі", у многіх з якіх вы не знойдзеце нават цэнніка на тавар, дзе гандлююць без касавых апаратаў, дзе вы не даведаецеся, якую фірму яны прадстаўляюць. Залішне доўга гаварыць, як усё гэта парушае правы спажыўцоў.

**— І што вы можаце зрабіць, каб спыніць гэты "беспредел"? Солі на хвост пасыпаць?**

— Не кажыце! Мы плённа ў гэтай справе кантактуем з міліцыяй, выканаўчай уладай, дзе нам дапамагаюць.

**— І колькі ўсё-такі спраў, звязаных з парушэннем Закона аб абароне правоў спажыўцоў, праходзіць праз ваша таварыства?**

— У год недзе каля шасцідзесяці. Працэнтаў шэсцьдзесят-семдзесят з іх мы выйграем. Ды не прайграем мы і астатнія, проста абодва бакі вырашаюць не даводзіць справу да суда і вырашаюць спрэчку палюбоўна. Многія таваравытворцы ідуць на гэта, бо разумеюць, што праз суд страцяць у шмат разоў болей.

**— Што і казаць, вашу службу трэба пашыраць.**

— У Польшчы, напрыклад, таварыства спажыўцоў фінансуецца праз бюджэт. Я ўжо тры гады змагаюся за тое, каб наш урад выпрацаваў дзяржаўную праграму абароны правоў спажыўцоў. Ды пакуль што безвынікова. Але я веру ў лепшае.

**— Мне застаецца сказаць дзякуй за гэтую нашу сустрэчу і пажадаць вам і вашым паплечнікам плёну ў такой неабходнай грамадству дзейнасці.**

# "ГІТАРА — НАШ КАПРЫЗ..."

## З НАГОДЫ ФЕСТЫВАЛЮ Ў ВІЦЕБСКУ

**"Гітара — інструмент дзіўны. Яна сціплая і таварыская адначасова. У яе прысутнасці няма абыякавых — у шумнай студэнцкай кампаніі, на доўгачаканым турысцкім прывале, сярод сходу музычных гурманаў. Гітара — інструмент інтымны. Гукі яе струн заўсёды шчырыя. Яны давяраюцца рукам аматара і прафесіянала. Ёй адкрываюць свае настроі і пачуцці. Гітара — інструмент прыгожы. Плаўныя выгібы яе дэкі вытанчаныя і дасканалыя. Строгасць грыфа класічна высакародная".**

Гэтак узнёсла выказалася Марына Раманоўская, дырэктар вядомага віцебскага фестывалю гітарнай музыкі "Менестрэль". Упэўнены, што многіх турбуюць пытанні: чаму менавіта ў Віцебску, дзе няма пэўных гітарных традыцый і нават класа гітары ў музычным вучылішчы, чаму менавіта фестываль гітары і г. д.? Адзін з адказаў я знайшоў у буклеце фестывалю: "Менестрэль" — гэта наш капрыз. У свеце шмат цудоўнай музыкі, але ў той час, у пахмурным і завейным лютым 1992-га хацелася пачуць гітару". Так тлумачаць паходжанне фестывалю М. Раманоўская ды Э. Чарніўчан, яе бліжэйшы памочнік. Як вядома, гэты ж дуэт наладжвае у Віцебску Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. Паболей бы нам такіх апантаных і "капрызлівых" людзей!

Што ж да "Менестрэля" — дык гэтае свята гітары праводзіцца ў Віцебску з 1992 года. Сёлетні фестываль, як і папярэднія, стаўся значнай падзеяй у музычным жыцці Беларусі. Сваімі ўражаннямі пра "Менестрэль-95" дзеліцца Уладзімір Захараў, вядомы ў рэспубліцы гітарыст, лаўрэат міжнародных конкурсаў.

**— Валодзя, па-першае, як ты трапіў на гэты фестываль?**

— У мінулым годзе я быў сярод яго ўдзельнікаў як выканаўца, а сёлета, на маё прыемнае здзіўленне, мяне запрасілі як госця. Пазбаўлены "канцэртных" клопатаў і хваляванняў, я атрымаў найвялікшую асалоду ад таго, што пачуў і ўбачыў. Адразу хачу выказаць за гэта шчырую падзяку арганізатарам — Марыне Раманоўскай і Эдуарду Чарніўчану.

**— Ты неаднойчы быў госцем і ўдзельнікам гітарных фестываляў, маеш пэўны вопыт і, безумоўна, можаш параўноўваць?**

— Напэўна, так. Я бываў у Кракаве, Гданьску, Маскве, іншых гарадах. Без сумнення скажу, што "Менестрэль" амаль ні ў чым не саступае. Арганізацыя выдатная, прадумана кожная дробязь, створаны ўсе неабходныя ўмовы. Мастацкі ўзровень таксама вельмі высокі. Прычым не толькі таму, што ўдзельнікі — майстры еўрапейскага класа. Звяртае на сябе ўвагу і агульная атмасфера, надзвычай рамантычная, натхнёная, паэтычная. Гэтаму спрыяе і сама назва — "Менестрэль", і ўтульная Круглая зала Палаца прафсаюзаў, дзе праходзілі канцэрты, слухачы якіх сядзелі за столікамі пры свечках, і вершы Уладзіміра Караткевіча, якія з уздымам чытаў артыст тэатра імя Я. Коласа Міхаіл Краснабаеў. Нават персанал, што абслугоўваў фестываль, сваім адзеннем — а ўсе былі апранутыя ў фракі — нагадваў: адбываецца нешта не зусім звычайнае. Дарэчы, уся гэтая ўзнёслая рамантыка закладзена ў самых асновах фестывалю, які невыпадкова праводзіцца ў час сустрэчы зімы з вясной. Адзінае, што, бадай, адрознівае віцебскі фестываль, скажам, ад кракаўскага, — гэта адсутнасць выканаўцаў з Заходняй Еўропы, але тое справа часу...

**— ...і, напэўна, грошай?**

— Безумоўна. З гэтым заўсёды праблемы. Аднак віцябчанам удаецца іх вырашаць. "Менестрэль-95" падтрымалі Гандлёвы дом "Барс", прыватнае прадпрыемства "Хэлен" ды іншыя, а генеральны спонсар — Акцыянернае таварыства "Прамыслова-гандлёвая кампанія "Элцік", наколькі я ведаю, не адмовіла ў дапамозе нават нягледзячы на пэўныя складанасці свайго ўласнага матэрыяльнага становішча. Так што ў будучым "Менестрэль", магчыма, стане сапраўдным міжнародным фестывалем.

**— Дай Божа, але гэта ў будучым. А хто запомніўся з удзельнікаў сёлетняга свята?**

— Усе! Па-першае, іх там было не так многа, бо "Менестрэль" — фестываль камерны. Па-другое, усе чымсьці адметныя. Вячаслаў Тарлецкі — наш беларускі гітарыст, вельмі добры музыкант, таленавіты выканаўца, Міхаіл Гальдорт з Новасібірска — валодае фенаменальнай тэхнікай і тонкім густам. Ягоная ігра зачароўвае публіку, рэпертуар проста унікальны. Упершыню я прачытаў пра яго ў адным з італьянскіх гітарных часопісаў, а цяпер давялося пазнаёміцца асабіста. Нарэшце, масквіч Аляксандр Суэцін — лютніст, доўгі час працаваў у знакамітым "Мадрыгале". Іграе на многіх старажытных інструментах: лютні, барочнай гітары, тэорбе і інш. (Дарэчы, у класічнай гітары ён расчараваны). Ягонае выкананне ўразіла не толькі майстэрствам і дасканаласцю, але і максімальнай прыбліжанасцю да нашай эпохі. Старадаўнія творы гучалі не як архіўныя рарытэты, а як вельмі сугучная нам, у пэўным сэнсе сучасная музыка. На трэці дзень фестывалю адбыўся гала-канцэрт, у якім, акрамя названых салістаў, узялі ўдзел Іван Смірноў і Андрэй Званкоў з Масквы, выканаўцы на так званай "сучаснай рускай гітары" і Віктар Максімаў з Віцебска, які ў суправаджэнні камернага аркестра музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Анатоля Бяляўскага сыграў Канцэрт свайго маладога земляка Вячаслава Дацкевіча.

**— Фестываль-92, першы ў гісторыі "Менестрэля", застанецца ў памяці дзякуючы двайному дыску-гіганту, выпушчанаму фірмай "Белатон", а як наконт фестывалю-95?**

— Сёлетнія запісы таксама не будуць страчаныя — выйдзе аўдыёкасета. Акрамя таго, здаецца, кожны год канцэрты здымае творчая група Віцебскага абласнога тэлебачання. У мінулым годзе, дарэчы, быў падрыхтаваны матэрыял у рэспубліканскі эфір, але ён, на жаль, не дайшоў чамусьці да гледачоў. Шкада, калі сёлета здарыцца тое самае, бо падзеі "Менестрэля-95" бясспрэчна заслугоўваюць увагі.

**— Наколькі мне вядома, "Менестрэль" амаль цалкам абыходзіцца без падтрымкі дзяржаўных устаноў культуры?**

— Так, і гэта, на маю думку, добра, бо залішняе апекаванне напэўна толькі пашкодзіла б, дадало б нейкай афіцыйнасці, руціннасці і заштампаванасці, якіх пакуль удаецца пазбегнуць. Фестываль робяць людзі, якія хочуць гэта рабіць, а не вымушаны па службовых абавязках. Тое вялікая розніца, і яна адчуваецца.

**— Як ты лічыш, ці з'явіцца калі-небудзь на Беларусі канкурэнт "Менестрэлю", скажам, у Мінску ці ў Гродне?**

— У Мінску ёсць гітарны фестываль, але ён трохі іншага напрамку. Што тычыцца нашага Гродна, то мне, як гарадзенцу, вельмі б хацелася, аднак... Дарэчы, у суседняй Польшчы праводзіцца штогод некалькі гітарных фестываляў — у Варшаве, Кракаве, Любліне, Гданьску, Беластоку. У нас пра такое можна толькі марыць, але раней не было і "Менестрэля", і як жа добра, што цяпер мы яго маем.

**— Тым не менш, не будзем губляць надзею?**

— Канешне. Гітара апошнім часам заваёўвае ўсё большую папулярнасць, і, магчыма, яшчэ дзе-небудзь на Беларусі знойдуцца людзі, якія зробяць яе сваім "капрызам", прадметам свайго захаплення і любові. Яна, безумоўна, вартая таго.

**Гутарыў Аляксей САЛАДУХІН**



*На здымку: удзельнікі "Менестрэля-95" В. Тарлецкі, М. Гальдорт, І. Смірноў, А. Званкоў, А. Суэцін.*
*Фота А. ГЛЕБАВА*

# РЭНЕСАНС... РЭНЕСАНСА

***Нядаўна Саюз музычных дзеячаў Беларусі, Навукова-творчае аб'яднанне "Facultatis" і Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры рэспублікі арганізавалі і правялі Міжнародны майстар-курс "Фундаментальныя асновы выканання поліфаніі заходнееўрапейскіх кампазітараў позняга Рэнесанса". У Мінск быў запрошаны дырыжор з Галандыі Дзіркян Харынга, які на працягу некалькіх гадоў бярэ ўдзел у арганізацыі і правядзенні летніх майстар-курсаў у Германіі, Італіі, Польшчы, Чэхіі і Славакіі. Ён таксама з'яўляецца кіраўніком вакальных калектываў і аркестраў старадаўняй музыкі ў Галандыі і Празе (хор "Trajecti Voces" — Ultrecht, камерны аркестр Driebergen, вакальны калектыў "Vaganti" — Прага). Інтэрв'ю са спадаром Харынгам мы прапануем увазе нашых чытачоў.***

**— Спадар Харынга, што паўплывала на ваша творчае развіццё як музыканта, спрыяла такой вялізнай вашай цікавасці да музыкі эпохі Рэнесанса?**

— Падлеткам я зацікавіўся музычнай культурай эпохі Рэнесанса. Паступова гэтая цікавасць узрасла. Большую частку часу я праводзіў у архівах, дзе і адкрыў для сябе раней невядомых кампазітараў XVI—XVII стагоддзяў. У той час гэта быў рух першапраходцаў. Выкананнем і прапагандай старадаўняй музыкі займалася невялікая частка музыкантаў-энтузіястаў, якія ўжо стаміліся ад класікі і няўтульна пачуваліся ў музыцы сучаснай.

У канцы 70-х гадоў гэты рух стаў развівацца сярод аматараў і прафесійных музыкантаў і спачатку ўспрымаўся не вельмі сур'ёзна. Але час ішоў. Паступова прафесійныя музыканты зацікавіліся выкананнем поліфаніі XVI—XVII стст. І цяпер Галандыя і Англія з'яўляюцца як бы цэнтрамі, дзе сканцэнтраваны веды ў гэтай галіне старадаўняй музыкі. На Захадзе яна вельмі папулярная і гучыць нароўні з творамі Баха, Моцарта. Але важна не толькі выкананне яе, але і вывучэнне, г. зн. спалучэнне тэорыі з практыкай.

**— А як пачыналася ваша дырыжорская дзейнасць?**

— Я вучыўся ва універсітэце на музычным факультэце. Там вывучаў тэорыю, гармонію, ігру на фартэпіяна. Адначасова з вучобай ва універсітэце я пачаў займацца ў кансерваторыі, дзе ўрэшце атрымаў спецыяльнасць дырыжора хору і аркестра. Дарэчы, я спяваў у многіх хорах і вучыўся ў многіх дырыжораў. Гэты вопыт памагае мне эксперыментаваць у рабоце са сваімі калектывамі. Старадаўняя музыка цікавая тым, што яна не мае ніякіх акадэмічных традыцый. Гэта дае магчымасць пазбегнуць штампу ў выкананні.

**— Што вы маглі б сказаць пра вашы сімпатыі, прыхільнасці ў рэпертуары, у дачыненні да самой музыкі?**

— Мой улюбёны перыяд — каля 1600 г. Гэты перыяд пераходу ад музыкі Рэнесанса да музыкі барока. Ён вельмі цікавы ў галіне стылю, музычнай мовы. Любімы кампазітар — Клаўдыё Мантэвердзі.

Ужо ў пачатку XVI ст. у Галандыі і Бельгіі адзначаўся высокі ўзровень музычнай культуры. Тут з'явіўся шэраг так званых "маленькіх кампазітараў", якія рабілі спецыфічныя рэчы ў галіне музычнай мовы. У той час Італія пасылала сваіх музыкантаў для навучання ў Галандыю, а з Галандыі ехалі музыканты ў Італію. Адбывалася нібы ўзаемапранікненне музыкантаў адной краіны ў другую. Так, напрыклад, Палестрына вучыўся ў галандскага кампазітара Вільярда. Пазней многія немцы вучыліся ў Галандыі.

**— А ваша выканаўчая канцэпцыя таго ці іншага твора: як нараджаецца яна, ці арыентуецеся вы на "чужыя" запісы?**

— Ва Ултрэхце багатая музычная бібліятэка. Там сабраны запісы кампазітараў розных эпох. Шмат часу я аддаваў праслухоўванню гэтых запісаў. Вось калі нараджаўся рух аматараў старадаўняй музыкі, то мы маглі спрачацца цэлымі вечарамі. Цяпер ужо ў мяне выпрацаваўся свой стыль працы, сваё стаўленне да інтэрпрэтацыі. На Захадзе ў рабоце ніхто на цябе не "націскае". Ты можаш рабіць музыку такой, якой ты яе чуеш. У гэтым заключаецца творчасць. У мяне ў Галандыі аматарскі хор, але ў яго ўдзельнікаў вельмі высокі ўзровень музычнай падрыхтоўкі. Мы выконваем старадаўнюю музыку і музыку ў стылі "мадэрн". Яны блізкія між сабою тым, што і тая, і другая не звязана з традыцыямі XIX ст. Гэтая аддаленасць іх збліжае. Майму хору падабаецца спяваць старадаўнюю музыку. Таму мы можам музіцыраваць з 10 гадзін раніцы да 10 гадзін вечара.

**— Ці імкняцеся вы, выходзячы на эстраду, да загадзя зададзенага эталона інтэрпрэтацыі або ў працэсе выканання дапускаеце долю эксперымента — у галіне рытму, тэмпу і г. д.?**

— Вядома, падчас канцэрта я дапускаю долю эксперымента. Важна, каб музыканты разумелі стыль выканання старадаўняй музыкі. Роля ж дырыжора заключаецца ў паказе прынцыпаў спявання, бо старадаўняя музыка — гэта імправізацыйная музыка. Удзельнікі хору павінны праяўляць самастойнасць і разумець ідэю дырыжора. Кожная актыўна праспяваная партыя павінна стымуляваць рух іншага голасу.

**— Вы з'яўляецеся мастацкім кіраўніком аркестра і хору ў Галандыі, займаецеся педагагічнай дзейнасцю, з'яўляецеся галоўным рэдактарам часопіса для аматараў музыкі, у якога — 18 тысяч падпісчыкаў. Ці не перашкаджае гэта вашай канцэртнай дзейнасці?**

— Педагогіка дапамагае мне ў канцэртнай дзейнасці. Бо калі вучыш іншых — ты і сам многаму вучышся. Важна навучыць тэхнічным прыёмам, і тут студэнт мусіць капіраваць педагога. Але інтэпрэтацыя павінна быць свая, асабістая. У Галандыі ў гэтым плане ўсё проста. Студэнт ніколі не будзе капіраваць педагога.

**— Ці задаволены вы вынікамі працы ў Мінску? Ці выкананы яе асноўныя задачы і мэты?**

— Летам 1994 г. я таксама быў у Мінску, працаваў з гэтым жа калектывам. Цяпер я заўважыў крок наперад у разуменні стылю музыкі XVI—XVII стст. І гэта толькі пачатак, таму што большасць удзельнікаў — маладыя людзі, студэнты, якія толькі пачынаюць захапляючае падарожжа ў гэты цудоўны свет. Я хачу прадаставіць ім магчымасць лавысіць свой музычны ўзровень у Польшчы, дзе неўзабаве я таксама буду праводзіць майстар-курс.

**— І на развітанне: што б вы сказалі беларускаму слухачу?**

— Адзначу, што вынікам нашай працы былі два канцэрты ў Магілёве і ў Мінску. Мне вельмі спадабалася публіка. З вялікім задавальненнем людзі слухалі старадаўнія творы. Здавалася, яны былі ўражаны гэтай музыкай. Я хачу спадзявацца, што жыццё ў вашай краіне ўсё ж палепшыцца і, акрамя клопату, як накарміць дзяцей, у людзей з'явіцца іншы — музыка.

У сваю чаргу мы дзякуем спадару Харынгу за яго бескарыслівую працу. А таксама выказваем удзячнасць Саюзу музычных дзеячаў Беларусі, Дзяржаўнаму музею гісторыі тэатральнай і музычнай культуры за садзейнічанне ў арганізацыі майстар-курса, фірме "АНІ" на чале з генеральным дырэктарам Мікалаем Акулам за фінансавую падтрымку гэтай акцыі.

**Гутарыла Таццяна МІСНІК, удзельніца навукова-творчага аб'яднання "Facultatis"**

# МЕЛОДЫЯ ВЕЧАРОВАЙ ПРЫРОДЫ, НАВЕЯНАЯ ВЫСТАВАЙ У ГАЛЕРЭІ "МЕДЭЯ"

**Гартаю каталог, таўставатую такую кніжачку з неймаверна вялікай па сённяшнім часе колькасцю каляровых слайдаў, што само па сабе рэч вельмі рэдкая ды й не танная. На чарговай старонцы — здымкі: мастак у крэсле каля хатняга цяпельца, а вось ён у непагадзь з мальбертам шпацыруе па надзіва прыгожых мясцінах роднага мястэчка Лаўрышава (адтуль і вядомае Евангелле, і слынны Войшалк, князь Наваградскі).**

**Фізік, трошкі селянін ды мастак, Кастусь Качан увайшоў у беларускае мастацтва неяк нечакана, але трывала. Усяго гадоў дзесяць таму з'явілася яго першая работа на маладзёжнай выставе. І здзівіла — пазнавальнасцю таго вясковага падворка з кароўкамі ды студняю, да болю родным пейзажам, мелодыяй жоўта-карычневай вечаровай прыроды. А далей былі прыцемкі зімовага мястэчка, летнія клопаты, бабіна лета, восень. І, прыкаваны да цёплай зеленавата-вохрыстай гамы, мастак усё далей адыходзіў ад натуральнага вучнёўства ў вядомых жывапісцаў да свайго колеру, да нібы парванага мазка, што свеціцца і стварае адчуванне няскончанасці, незавершанасці імгнення.**

**Кастусю пашчасціла. І ў тым, што здолеў ён прарвацца праз мяжу камітэтаў, выстаўкамаў, адбораў, створаных былой сістэмаю. І ў тым, што не стаў адным з шэрагу самадзейных мастакоў, прэтэндуючых, але без права на гэта, на прафесійнасць. Ён — з новай генерацыі творцаў, таленавітых ад бога і натхнёных любоўю да Бацькаўшчыны. Яму не даспадобы вострая злабадзёнасць, палемічнасць. Ягоны ідэал — не мітынгі і заклікі, а сцвярджэнне ў душах людзей спакою, светлай радасці, таго, без чаго не знікне ачарсцвеласць.**

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*К. Качан падчас адкрыцця выставы.*

*"Перад Вялікаднем".*

*"Зямля Міндоўга".*

*Фота А. МАЦЮША*

# А ЯК ТАМ У СЛАВАКІІ?

АПОШНІМ ЧАСАМ на старонках беларускай прэсы (як навуковых выданняў, так і літаратурна-грамадскіх) не сціхаюць спрэчкі вакол будучае рэформы беларускага правапісу. Прычым гаворка ідзе або пра поўнае вяртанне да граматыкі Тарашкевіча, або пра яе поўнае непрыняцце, або пра частковае рэфармаванне сучаснага правапісу з унясеннем у яго некаторых прынцыпаў і рыс "тарашкевіцы". А пакуль тэарэтыкі разважаюць, практыкі дзейнічаюць: на сённяшні дзень на Беларусі маецца шэраг выданняў, якія або цалкам (як "Наша Ніва" ці "Свабода"), або часткова (як часопіс "Бярозка") перайшлі на тарашкевіцу. Адпаведным чынам дзейнічаюць і літаратары: адны друкуюцца толькі ў "Нашай Ніве", іншыя — толькі ў "Полымі", а некаторыя з поспехам супрацоўнічаюць і з першымі, і з другімі (напрыклад, У. Арлоў). Зразумела, што яны выкарыстоўваюць той правапіс, якога прытрымліваецца адпаведная рэдакцыя. У выніку літаратурны кантэкст значна ўскладняецца, бо творы аднаго і таго ж пісьменніка аказваюцца ў розных падсістэмах, нейкі твор можа друкавацца і па сучасным правапісе, і па Тарашкевічу, што ўскладняе сітуацыю, бо ў адным выпадку твор выступае як арыгінал, а ў другім — як ягоны "дубль", ягоны цень.

Свой уклад у заблытванне сітуацыі ўносяць і выдавецтвы: незалежныя цалкам прытрымліваюцца граматыкі Тарашкевіча, а дзяржаўныя друкуюць літаратуру і так, і гэтак (прынамсі, у факсімільных выданнях). Гэткі стан рэчаў цягнецца вось ужо некалькі гадоў запар, і невядома, калі прыйдуць часы кампрамісаў або часы ўяўнае перамогі аднаго правапісу над другім. І што цікава: ніводны з бакоў не выкарыстоўвае ў якасці аргументаў на сваю карысць гістарычны вопыт іншых народаў, якія раней за беларусаў зведалі падобную сітуацыю і адпаведным чынам выходзілі з яе, хаця гістарычныя вынікі, як правіла, у гэтых народаў выразна акрэслены і прааналізаваны. Але перад тым, як гэта зрабіць, неабходна, на нашу думку, удакладніць некаторыя зыходныя пазіцыі.

ЗРАЗУМЕЛА, што праблема правапісу — гэта толькі *вонкавае* праяўленне пэўных с у т н а с н ы х адносінаў, якія зараз маюць месца. Як вядома, практычна кожная літаратурная мова фарміруецца на базе *дыялекту* якой-небудзь мясцовасці, якая з пэўных прычын пачынае дамінаваць у народным жыцці: эканамічным, палітычным, культурным. У прыватнасці, граматыка Тарашкевіча базуецца на віленска-ашмянскіх гаворках, паколькі ў тыя часы менавіта Віленшчына і Вільня былі цэнтрам беларускага культурнага і ў значнай ступені палітычнага жыцця, а сама Віленшчына з Гарадзеншчынай як тэрыторыя былі моцным народным апірышчам адраджэнскае дзейнасці. З тае пары сітуацыя значна змянілася. Вільня страціла сваё значэнне як культурная і палітычная сталіца беларусаў, а адміністрацыйным цэнтрам яна ў XX стагоддзі, па сутнасці, і не была (за выключэннем перыяду Літоўска-Беларускае рэспублікі). Сама Віленшчына ў значнай ступені спаланізавалася і злітуанізавалася. Нарэшце, у выніку пэўных палітычных падзей яе жыхары, збольшага этнічныя беларусы, увогуле апынуліся спачатку ў Сярэдняй Літве, а потым у Летувіскай Рэспубліцы. Такім чынам, у сучасны момант выбраць тарашкевіцу — усё роўна што пагадзіцца з тым, што ў якасці *фундамента літаратурнае мовы* аднаго пэўнага народа можа быць абраны дыялект (або дыялекты) той часткі народа, якая пражывае *па-за дзяржаўнымі межамі* данае дзяржавы. Разам з тым у моўных адносінах віленская гаворка **застаецца па-за канкурэнцыяй**, бо, па-першае, яна самая "чыстая" ў моўных адносінах з тае простае прычыны, што татальнага пранікнення і ўзаемадзеяння з летувіскай мовай не было. Наадварот, як сведчыць у сваіх успамінах (гл. "Новый мир") Ч. Мілаш, беларускія хвалі паступова накрывалі суседнія летувіскія вёскі. Нават калі б працэс пранікнення і меў месца, зразумела, што на "адаптацыю" моўных рэалій зусім з іншае моўнае групы, у значнай ступені чужацкіх, патрэбны быў не толькі даволі працяглы час, але і статут дзяржаўнай мовы для мовы летувіскай, якога яна, як вядома, да рэвалюцыі не мела і потым на тэрыторыі Сярэдняй Літвы — таксама. Па-другое, беларусы Віленшчыны абсалютнай большасці былі каталікамі, прычым існавала даволі вялікая і ўплывовая група ксяндзоў-беларусаў, якія распрацоўвалі (і даволі паспяхова: успомнім толькі два выданні "Малітоўніка" К. Сваяка і матэрыялы часопіса "Хрысціянская думка" канца 20-ых—пачатку 30-ых гадоў) касцельную беларушчыну. І зноў-такі ў ёй яны абапіраліся на мясцовы дыялект. Гэта надзвычай важкі момант, які сведчыць пра тое, што касцельная мова на Беларусі як мова беларуская мае сваю ўласную жывую *традыцыю*, росквіт якой *супадае з эпохаю першага нацыянальнага адраджэння.* Але, зноў-такі, беларусы-каталікі на Віленшчыне зараз існуюць яшчэ ў меншай колькасці, чым беларусы як такія, і перспектывы касцельнай беларушчыны там цьмяныя ў той жа ступені, як і перспектывы беларушчыны ўвогуле.

Складанасць сітуацыі, у якой апынулася тарашкевіца і яе моўнае апірышча, абцяжарваецца тым, што ёй супрацьстаіць так званая "наркомаўка", або правапіс парэформенны, які структурна адпавядае таму варыянту беларускай мовы, які зараз лічыцца дзяржаўным, а значыцца, у пэўнай ступені і сам гэты правапіс з'яўляецца дзяржаўным. Зададзімся простым пытаннем: а які ж гэта дыялект, *дыялект якой мясцовасці або рэгіёна* Беларусі *адпавядае гэтаму правапісу?* Можа, яго і зусім няма? Калі б гэта было так, не было б і прадмета для размоў. Разважым наступным чынам: як вядома, рэформа 1933 года была накіравана на максімальнае набліжэнне беларускага правапісу да правапісу расійскага і праз форму — да канчатковага зліцця беларускай мовы з моваю расійскай, да растварэння яе ў мове суседняга народа, да зліцця нацый у канчатковым выглядзе. З пункту гледжання сутнаснай гэта азначала толькі тое, што ў якасці ФУНДАМЕНТА ЛІТАРАТУРНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ былі абраны ІНШЫЯ ДЫЯЛЕКТЫ (гаворкі), а менавіта тыя ЎСХОДНІЯ гаворкі або дыялект, які *ў максімальнай ступені набліжаны* да мовы суседняга моцнага славянскага народа, г. зн. да расійскай мовы. Тады паставім пытанне: ці ж гэта натуральна, каб у якасці фундамента нацыянальнай літаратурнай мовы **ў эпоху (перыяд) нацыянальнага адраджэння** быў абраны той дыялект, які **не толькі не падкрэслівае своеасаблівыя моўныя рысы свайго народа**, не вызначае ягоную самабытнасць у параўнанні з суседняю славянскаю моваю, але, наадварот, сведчыць пра мінімальныя адрозненні ад апошняй? Безумоўна, што з пункту гледжання нацыянальнага адраджэння гэты крок — **памылковы**, бо гэткім чынам немагчымая *самаідэнтыфікацыя народа,* акрэсленае ягонае ўяўленне пра ўласныя моўныя асаблівасці. Таму, дарэчы, немагчыма абранне ў якасці новага дыялектнага падмурка і гаворак беларусаў Беласточчыны, якія з цягам часу таксама адчулі на сабе моцны паланізуючы ўціск, асабліва ў інтанацыйнай і фразеалагічнай сферах.

Такім чынам, з усіх магчымых прэтэндэнтаў аніводзін не можа задаволіць нас цалкам, і тым не менш выбіраць трэба, бо час прыспешвае.

ЗВЕРНЕМСЯ ў такім выпадку да гістарычнага вопыту невялікага славянскага народа — славакаў і паглядзім, як яны ў свой час вырашалі і вырашылі гэтую праблему. Пры гэтым будзем паслядоўна супастаўляць славацкія рэаліі з тыпалагічна блізкімі да іх рэаліямі беларускімі.

У працэсе развіцця літаратурнай мовы для славакаў асаблівае значэнне мела эпоха канца XVIII—сярэдзіны XIX ст. У тыя часы Славакія ўваходзіла ў склад Аўстрыйскай імперыі, але

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

*(Пачатак на стар. 9)*

Усё хачу напісаць аповяд пра закаханасць вясковай цёткі-векавухі да такога ж дабрадушнага недацёпы-бабыля і пра дваравога сабаку Жука, якога яны абое любілі... Мне ў тым магчымым аповедзе бракуе галоўнага героя. А гісторыя рэальная. Яны і па сёння жывуць адзінока побач... Вось толькі сабака здох...

Не, не напішу, не хопіць трывання дацягнуцца да іх заземленай сутнасці. Ды і сабака здох немаведама па чыёй віне...

Мы пішам і прамаўляем мноства апраўдальных прыгожых слоў, каб выказаць сябе, бо ісціна, якую абыходзім кажучы і пішучы, месціцца ў адным канкрэтным слове, ад якога, як яго асновы, мы пачынаем ткаць жалобны саван той ісціне, хаваючы яе і хаваючыся ад яе...

Ад пачатку свядомага жыцця свайго мы баімся ісціны, як смерці, бо яна і ёсць смерць...

Люблю думаць, мроіць, разважаць і ўяўляць гэта як бы напісаным... Ды наяве запісваць тое якраз і не хочацца. Лянота мая і адчуванне, што на паперы выйдзе не так, як думалася...

Люблю проста думаць... Я — не літаратар, я, перш за ўсё, — задумшчык... Я і жыццё сваё так задумаў, каб даўмецца яго сутнасці. Не для некага, для сябе самога...

Некаторыя, дажыўшы старасці, — мудрэюць, іншыя — дзяцінеюць... Усе астатнія, на вялікі жаль, — паміраюць...

Не бойся пісаць пра сябе, бо напісаць сябе такім гнюсным, якім ты ёсць, не атрымаецца, не хопіць таленту... Гэта сцвярджае і ўвесь вопыт сусветнай літаратуры.

Праўда толькі адна. І не будзеш жа ёю раскідвацца на кожным кроку. Зберагаеш яе, як сваё адзінае апраўданне перад Богам... Таму і хлусіш паўсядзённа: не сабе, дык іншым, не іншым, дык сабе... І лепш бы сказаць, што праўда не адна, а праўда для аднаго...

Адсутнасць здаровага творчага розуму адчуваецца паўсюль. Хаос і апатыя — адметнасць таго. Ды і сам, вось, сяджу над гэтым аркушам і адчуваю падсвядома, што словы ўзнікаюць на паперы не ад разумнасці, не ад глыбокай думкі, а ад нямогласці і хваравітасці жыцця, якое і вымагае агрэсіўных альбо спачувальных слоў да самога сябе.

Пасля нічога не будзе. Усё ёсць сёння. Запамінай кожную дробязь, каб было чым жыць пасля...

Ёсць адчуванне, што страчваю сэнс жыцця. Куру, што патраплю. Чытаю, на што наткнуся. Гавару з кім прыйдзецца. Не смяюся. Не плачу. Не заводжу гадзіннік. Забываю нумар свайго тэлефона...

Не лезьце ў маю душу! Там ужо няма пустога месца...

Люблю наіўных. Гэта боскі знак, калі прыпомніць першыя дні тварэння свету. ...Гасподзь быў наіўным...

Літаратура зняволіла мяне. Літаратура — вуліца, літаратура — людзі на вуліцы, работа — літаратура, дом — літаратура, з жонкай — раман, цыгарэтны дым — літаратурна-крытычны... Я ўвесь — літаратура... Якая гэта літаратура — іншая рэч...

Ужо месяц як паказваюць крывавы жах чачэнскай вайны... Жонка асцярожна пытаецца: а ці змог бы я забіць чалавека? Схамянуўшыся ад нечаканасці, роспачна думаю над тым, і, раптам, горычна ўсведамляю: а ці не ёсць ужо сама гэтая думка перадумовай магчымасці забойства?.. О Госпадзе!

Чым больш чалавек гаворыць, тым больш ён няшчыры. Шчырасць, як немаўля, выдае сябе не словам, а голасам, не маўленнем, а маўчаннем, не тым, як было, а тым, як ёсць...

Разанаў каторы дзень жаліцца на зубны боль... Мне гэта дзіўна чуць. Я зразумеў бы яго і паспагадаў бы яму, калі б ён жаліўся на душэўны боль... А так — я толькі пацепваю плячыма, ні паэзіі, ні філасофіі ў яго пакутах не адчуваючы... Жорсткі я чалавек...

Калі гонар пераважвае талент, то ў накладзе застаецца чалавечая годнасць...

Пах гною — жыццядайны і несмяротны...

Кава і цыгарэты змушаюць мяне паміраць больш аптымістычна...

Спяшайся ці не спяшайся, а — напрыканцы даходзіш... Апошняе слова і засцерагае мяне ад спешкі, але не ад непазбежнасці.

Іду ў гандлёвы цэнтр "Вільнюс". Нешта сам сабе думаю, маракую. Нечаканыя госці ў хаце заўжды наводзяць на тлум. Незаўважна ўспіхваюся на жывот мажнай цёткі. "Блытаешся пад нагамі, як дзядзька ў Вільні!.." — бяззлобна абзываецца яна ўслед. Не ўстрымаўшыся, голасна і самазадаволена смяюся, пакуль не натыкаюся на падэшвы мардатага мужлана. "Сунешься, падла, как верблюд по пустыне!" — гыркае ён на мяне. На што, хістка шлэпаючы збоку, пакамячаны мужычок спачувальна ўстаўляе: "Смажыць ево, вот ён выпиць и ишет, ня забижай зямелю..." Ужо бяздумна пытаюся ў прадаўшчыцы: "Сталічная" — мінская?" — В столице — минская, в Старых Дорогах — стародорожская...

"Біблія" — адзіная кніга, пра якую ведаюць нават тыя, хто нічога не хоча ведаць.

Народзіны, вяселлі і хаўтуры — сёння

непасрэдна падпарадкоўвалася Мадзьярскаму каралеўству. Глыбінныя перамены паступова пачалі адчувацца там ва ўсім, у тым ліку пачала абуджацца славацкая нацыянальная свядомасць, фарміравалася нацыянальная ідэалогія. Але гэта быў цяжкі і паступовы працэс.

Справа ў тым, што да канца XVIII стагоддзя славакі не мелі ўзаконенай літаратурнай формы сваёй мовы. Яны выкарыстоўвалі ў гэтай якасці і лаціну, і чэшскую, і мадзьярскую, і нямецкую мовы, а народныя масы ў паўсядзённым ужытку карысталіся мясцовымі дыялектамі. У якасці пісьмовай мовы выкарыстоўвалася мова чэшская, якая потым стала і літургічнаю моваю славакаў-пратэстантаў. Першым, хто паспрабаваў (і не без поспеху) надаць статут літаратурнай мовы мове славацкай, г. зн. першым славацкім рэфарматарам стаў каталіцкі святар Антон Бэрналак. Таму гэты варыянт славацкай літаратурнай мовы і атрымаў назву (як і правапіс) "бэрналаччыны". Што ж яна сабой уяўляла? Па-першае, у падмурак славацкай літаратурнай мовы Бэрналак вырашыў пакласці так званы "заходнеславацкі культурны інтэрдыялект", які ўзнік у выніку доўгіх узаемаадносін і ўзаемадзеянняў **паміж мясцовымі заходнеславацкімі гаворкамі і чэшскай літаратурнай мовай.** Прызнавалі гэтую мову практычна толькі славацкія каталікі, і агульнанацыянальнай літаратурнай мовай яна не стала, хаця і ўжывалася дзесьці каля 60 гадоў. У дачыненні да беларускіх рэалій гэта мова адпавядае той мове, або тым **усходнебеларускім** гаворкам, выразнікам якіх і стала моўная рэформа 1933 года (гэты савецкі варыянт беларускай літаратурнай мовы можна акрэсліць як "усходнебеларускі культурны інтэрдыялект"). У філасофскім плане гэта азначае, што з пункту гледжання тэорыі развіцця першынство аддаецца прынцыпу стандартызацыі перад прынцыпам рознаварыянтнасці і ўвогуле разнастайнасці свету як перадумовы ягонага паспяховага развіцця. Цікава і тое, што і ў славакаў, і ў беларусаў гэтыя формы літаратурнай мовы праіснавалі прыкладна аднолькавую колькасць гадоў: каля 60-ці (1933—1993 на Беларусі, 1787—1843 гг. у Славакіі), але і адна, і другая з цягам часу спазналі крызіс. Але з пункту гледжання паслядоўнасці — "берналаччына" з'яўляецца першай па адліку, а "наркомаўка" — другою, што яскрава абмалёўвае ўсю сітуацыю цалкам.

У пачатку 40-ых гадоў XIX стагоддзя славацкія патрыёты на чале з выдатным дзеячам нацыянальна-вызваленчай барацьбы Людавітам Штурам прыйшлі да высновы, што неабходны новы варыянт літаратурнай мовы (на фундаманце яе потым і сфарміравалася славацкая літаратурная мова). Грамадскія абставіны былі даволі складаныя і неспрыяльныя, на першы погляд, для гэтага кроку.

З аднаго боку, славацкі рух быў на ўздыме, а з другога боку, *мадзьярская* мова была аб'яўлена на славацкай тэрыторыі ў *якасці дзяржаўнай мовы*. Вугоршчына ўвогуле ішла да рэвалюцыі 1848 года. Здавалася б, навошта тая рэформа? Ва ўмовах узмацнення мадзьярызацыйных працэсаў ці не лепей было б захаваць тое, што маеш, тым больш што Заходняя Славакія куды менш за іншыя славацкія рэгіёны адчувала гэты ўціск. (Дарэчы, мадзьяры "дамагліся"-такі свайго, калі падчас рэвалюцыі ў Аўстра-Венгрыі славакі-д э м а к р а т ы сталі на баку аўстрыйцаў — м а н а р х і с т а ў і і м п е р ы я л і с т а ў, не падтрымаўшы вызваленчы мадзьярскі рух). Аднак менавіта ў гэты складаны час Людавіт Штур даў поўнае ідэйнае і навуковае абгрунтаванне неабходнасці і мэтазгоднасці новай літаратурнай мовы, новага правапісу, які атрымаў назву *"штураўшчыны"*. Гіпатэтычна гэтая сітуацыя ў Славакіі нагадвае нам два магчымыя моманты: у мінулым — калі б і надалей захавалася Літоўска-Беларуская рэспубліка, у якой **толькі літоўская** мова была б аб'яўлена дзяржаўнай, у будучым — калі на Беларусі мова расійская таксама даможацца дзяржаўнага статуса (што і сталася). У абодвух выпадках, як сведчыць славацкі вопыт, **на моўную рэформу ўсё роўна трэба ісці.** Славацкі вопыт гаворыць, што нават у складаных для мовы абставінах у якасці асновы нацыянальнай літаратурнай мовы павінен быць абраны **дыялект таго рэгіёна, які меней за астатнія кантактаваў з блізкімі роднаснымі славянскімі мовамі, а значыць, захаваў як найболей рыс непаўторнасці, "чысціні" беларускай.** Бо зразумела, што і летувісам, і мадзьярам, як народам, мова якіх належыць да розных і даволі аддаленых моўных груп, трэба будзе прыкласці куды больш значныя высілкі для асіміляцыі, чым тым жа расійцам або чэхам.

Асноўнай штураўскай ідэяй была ідэя нацыянальнай самабытнасці славакаў і самастойнасці іх мовы. У незвычайна цяжкіх для славакаў абставінах Штур выступіў супраць разумення славянскай узаемнасці па Колару, г. зн., ён адышоў ад разумення славянскага народа як адзінага цэлага, якое складваецца з чатырох плямёнаў: рускага, польскага, чэхаславацкага і ілірыйскага. Ён выдзеліў ІІ плямёнаў, у тым ліку чэхаў і славакаў асобна. Гэта пацягнула за сабою шматлікія абвінавачванні Штура і ягоных прыхільнікаў у падрыве "чэхаславацкага" культурнага адзінства. Але Штур не адмаўляў таго, што трэба і надалей захоўваць і развіваць чэшска-славацкія літаратурныя і культурныя сувязі; ён рашуча выступіў супраць таго, каб дзеля захавання гэтага адзінства ахвяраваць славакамі, іхняй літаратурнай, моўнай самабытнасцю. Паказальна, што супраць Штура найбольш актыўна выступілі менавіта славакі па паходжанні — Шафрык і Колар. Адказваючы на гэтыя абвінавачванні, адзін з вядомых паплечнікаў Штура, Ёзэф Міласлаў Гурбан, падкрэсліваў, што за гэтай турботай аб славаках заўсёды чуцен той самы рэфрэн: "Славакі — гэта толькі зброд, галеча, славацкая мова — гэта мова падпаскаў, пастухоў і карчмароў, таму без чэхаў нічога не будзе, яна так і застанецца існаваць ва ўжытку дратароў і свінароў! Скажыце вы нам самі, пан Колар, ці ж гэта так?". Як, дарэчы, пан Колар нагадвае некаторых нашых сучаснікаў — гарачых прыхільнікаў беларуска-расійскай еднасці за беларускі кошт!

Па Штуру, натуральная славацкая мова найлепей захавалася ў Сярэдняй Славакіі **ў выглядзе сярэднеславацкага дыялекту.** Іншымі словамі, ён прапанаваў у якасці **фундамента новай славацкай літаратурнай мовы сярэдняславацкія гаворкі, г. зн. тыя гаворкі, носьбіты якіх непасрэдна судакраналіся з мадзьярамі, а не з чэхамі ці з палякамі на поўначы.** У нашым выпадку гэта адпавядае віленска-ашмянскаму выбару Б. Тарашкевіча, з тою толькі розніцай, што Штур яшчэ павінен быў зрабіць тое, што **ўжо** зроблена для беларусаў Б. Тарашкевічам. Сітуацыя на Беларусі складваецца зусім парадаксальная: з аднаго боку, становішча Штура было цяжэйшае, бо дзяржаўнай была абвешчана мова суседняга народа, мова чужацкая, моцная мова, але, з другога боку, яму было і ў чымсьці лягчэй, бо бэрналакаўскі "інтэрдыялект" так ім і заставаўся і не быў абвешчаны ў якасці дзяржаўнай мовы, як тое здарылася на Беларусі.

Па Штуру, новая літаратурная мова павінна была стаць і галоўным фактарам **канфесійнай** кансалідацыі славакаў, пераадолення расколу на славакаў-каталікаў і славакаў-пратэстантаў, да якіх належаў і сам Штур. Прычым, трэба заўважыць, што Штур не быў зацятым у сваіх перакананнях, ён дапускаў кампрамісы і сам ішоў на іх, але толькі на тыя, якія не разбуралі сутнасці ягоных намаганняў — паказаць усяму свету і самім славакам **непаўторныя і самабытныя рысы славацкай літаратурнай мовы.**

Якім жа чынам Штур ажыццявіў сваю праграму? Як ён змагаўся на тры франты: супраць чэшскай літаратурнай мовы, супраць бэрналагчыны і супраць мадзьярскай мовы?

Па-першае, былі дыскусіі ў розных славацкіх выданнях на гэтую тэму, дыскусіі адкрытыя. Гэта першая газета на "штураўшчыне" — "Славацкая нацыянальная газета" і яе літаратурны дадатак "Арол Татранскі", навуковыя даследаванні, лінгвістычныя працы, літургічныя кнігі, перакладная літаратура. Заўважым пры гэтым, што газета Штура была разлічана на шырокія колы грамадскасці, а не толькі на элітарныя колы інтэлігенцыі. Тытанічныя высілкі прыкладаліся дзеля ўвядзення "штураўшчыны" ў школы, касцёлы і суды. Што ж датычыцца мастацкай літаратуры, то выкарыстоўванне гэтай мовы дало ёй моцны ўздым у творах пісьменнікаў-рамантыкаў. Паплечнік Штура Ё. М. Гурбан узначаліў часопіс "Славацкі кругагляд" (1846—1852), прычым і Штур і Гурбан дапускалі ў сваіх выданнях некаторыя адхіленні ад сваіх нарматываў дзеля пашырэння чытацкага актыву і выхоўвання яго ў сваім духу. Было арганізавана і культурна-асветніцкае таварыства "Татран", на чале якога стаў другі штураўскі паплечнік М. Годжа. Заўважым пры гэтым, што ўсё гэта рабілася на ўласныя невялікія грошы і пры *дзяржаўнасці мядзьярскае мовы*!" Праз чатыры (!) гады, у 1847 годзе, адбыліся перамовы паміж прыхільнікамі і праціўнікамі "штураўшчыны", у выніку чаго крыху змадэрнізаваная штураўшчына была прызнана ўсімі, прычым не апошнюю ролю адыграла і тое, што на ёй выпускалася папулярная ў народзе літаратура: альманахі, календары і г. д.

Што датычыцца канкрэтных правапісных норм, то варта заўважыць, што Штур абараняў фанетычны прынцып правапісу, паколькі ён лічыў, што менавіта такі прынцып дазваляе найбольш дакладна і відочна паказаць адрозненні паміж **славацкай мовай і мовай чэшскай.** Цікавай уяўляецца нам і такая характэрная рыса штураўскага правапісу, як абазначэнне мяккасці зычных *d,t,n* не толькі перад галоснымі *a, o, u,* але перад *i, e* і перад дыфтонгамі *ja, je.* Гэта дало магчымасць зафіксаваць сярэднеславацкую **апазіцыю па цвёрдасці-мяккасці.** Увогуле Штур, безумоўна, не ва ўсіх выпадках меў рацыю, але ў цэлым ён перамог: менавіта прапанаваны ім варыянт літаратурнай мовы і яе правапіс набылі статус агульнанацыянальнай літаратурнай мовы.

Далейшае развіццё падзей пацвердзіла правільнасць шляху: пасля распаду Аўстрыйска-Мадзьярскай імперыі Чэхія і Славакія апынуліся ў адзінай дзяржаве, у Чэхаславацкай рэспубліцы, дзе дамінуючай аказаліся і нацыя, і культура чэшскія. Шмат хто з тагачасных уплывовых чэшскіх палітычных і культурных дзеячаў падзяляў погляды тых, хто ізноў падняў на шчыт ідэі чэхаславакізму і адзінай чэхаславацкай нацыі. Калі да гэтага дадаць яшчэ і тое, што Чэхія дамінавала ў новай дзяржаве і эканамічна, то славацкая мова ізноў апынулася не ў лепшых варунках, нават пры тым, што Чэхаславацкая дзяржава таго часу (1918—1938) шмат у якіх адносінах магла лічыцца ўзорам дэмакратыі (нагадаем тут вядомыя ўспаміны Л. Геніюш пра пражскі перыяд яе жыцця). Ці ацалела б і тады, і дзесяцігоддзі пазней славацкая мова побач з чэшскай у адзінай дзяржаве, з пражскім палітычным, эканамічным і адміністрацыйным цэнтрам, калі б яна базіравалася на "заходнеславацкім культурным інтэрдыялекце", вельмі блізкім да чэшскай мовы? Скажам шчыра, наўрад ці. Ці ж ацалее беларушчына і беларуская мова пасля рэферэндуму, калі большасць нашых грамадзян выказалася за дзве дзяржаўныя мовы? Таксама наўрад ці, бо ў сучасным сваім выглядзе яна базіруецца пераважна на ўсходнебеларускіх дыялектах, дакладней кажучы — інтэрдыялектах, якія, паўторымся, максімальна набліжаны да расійскай мовы, а правапіс толькі ўмацоўвае і фіксуе гэта.

**Таццяна АНДРЭЙЧАНКА**

---

ўжо не кожнаму па кішэні. Таму — не ўсе нараджаюцца, але ўсе паміраюць...

Сапраўдны творца павінен вяртаць чалавека да першапачатку, а не весці людзей да канца...

Бывае, што жыццё нешта дадае чалавеку, бывае, што нешта забірае... Ураўнаважаным чалавек доўга быць не можа... Ураўнаважаны ён — мёртвы...

Калі словы пачынаюць здзіўляць сваім патаемным сэнсам — пішы вершы. Але толькі да той пары, пакуль не перастанеш здзіўляцца, што ты іх пішаш...

Будзень набліжае тое, што будзе. Свята вяртае да таго, што было.

Вясна! Ружавее вішня... Салодкі сорам апладнення...

Маладзічка гадоў дваццаці з выявамі яшчэ не страчанага спартыўнага складу некалькі хвілін круціць "кола" ці "сонца" (не ведаю, як правільна называецца гэтае практыкаванне ў гімнастыцы), паказваючы пры кожным перавароце дзірку ў трусах паміж шырока разведзеных ног...

Дзяўчына — душэўна хворая, і адбываецца тое ў вар'ятні. А робіць яна практыкаванне за недапалак цыгарэты, які пасля атрымлівае ад зацікаўленай публікі — алкаголікаў, што лечацца тут, у суседнім наркалагічным корпусе. Дарэшты прапітыя мужыкі з пэўнымі зачаткамі імпатэнцыі. У большасці з іх ёсць ці былі жонкі і нават дочкі ўзросту гэтай, няшчаснай і хворай, колішняй гімнасткі. Яны скаляцца і жывёльна выкручваюць свае лупачы ўслед за той дзіркай у трусах, а яна толькі неўразумела пасміхаецца, са смакам пыхкаючы пасля абсліненым недапалкам...

Менавіта тады я ўпершыню свядома вырашыў "завязаць" з п'янствам. З'явіўся страх, што і я "скацінею"... А тое "сонца" час ад часу яшчэ пракручваецца ў памяці, згадваючы ў свядомасці пушкінскую малітоўную засцярогу: "Не дай мне Бог сойти с ума..."

Пішыце вершы простымі алоўкамі. Атрымліваецца неразборліва і лёгка сціраецца. Для вершаскладальнікаў гэта не апошняе правіла.

Няма большай шчырасці, чым думаць пра смерць жывучы...

Садом і Гамора — пакараны, а Лас-Вегас — квітнее...

У адной з тэлеперадач расейскі чыноўнік распавядаў, што чачэнцы на цэнтральнай плошчы Грознага, мітынгуючы перад урадавай рэзідэнцыяй, спявалі адну і тую ж патрыятычную песню. Спявалі яе бясконца, суткамі, наэлектрызоўваючы і сябе, і тых, хто там быў. Урэшце мелодыя настолькі авалодвала і ўздзейнічала на псіхалогію людзей, што нават чалавек абыякавы да патрыятычных настрояў міжволі рабіўся агрэсіўным нацыяналістам...

У звязку з гэтым мне ўспомніўся вар'яцкі дом у Крывошыне, што пад Баранавічамі. Трапіўшы туды на прымусовае лячэнне ад алкагалізму, я апынуўся ажно на трое сутак у аддзяленні шызафрэнікаў. Алкашоў туды змяшчалі як бы на каранцінны тэрмін для псіхалагічнай апрацоўкі. Адразу пачуваешся там жахліва, аднак ужо на наступныя суткі, змірыўшыся з сітуацыяй і шчыльней прыгледзеўшыся да шызанутай, але наіўнай і квола-запаволенай ад лякарстваў публікі, з творчай цікавасцю пачынаеш прыстасоўвацца да іх жыцця-быцця...

Памятаю аднаго волата-мужлана, з назаўсёды прыліплай да твару дзіцячай смяшынкай, я аніяк не мог абыграць у шашкі. Больш таго, раз за разам прайграваў яму, аднак злавацца мог толькі на свой разумовы патэнцыял і ў прынцыпе толькі шкадаваць гэтае двухметровае дзіця, што, відаць, ці не ў першую чаргу дзякуючы сваёй усмешцы і трапіла ў гэтае вар'яцкае месца. Дзіця толькі акругляла вочы, будучы непахісна задаволена і сабой, і мною, і шашкамі, чамусьці пафарбаванымі ў розныя колеры, апроч чорнага і белага... То быў шчаслівы чалавек! А я быў няшчасны...

Аднак у звязку з Чачнёй успамінаецца іншы выпадак. Зрэшты, там усё было выпадкова. І людзі — таксама...

Адзінае, чаго паўсядзённа бракавала шызафрэнікам — курыва. З гэтым узнікалі бясконцыя праблемы. "Бычкі" былі коштам залатога самародка. Цыгарэты — адзінае, з-за чаго ўспыхвалі непаразуменні, агрэсія і нават кароткія сутычкі, пакуль дзяжурны перакормлены санітар не апускаў цяжкую звязку ключоў на спіну як заўжды менш вінаватага і больш слабага...

Была нядзеля. Святы дзень. Цёпла было і сонечна. Пацыенты, пасёрбаўшы рэдкага чаю з шэрым батонам і атрымаўшы па прыгаршчы "колаў з тармазамі" ленавата разлегліся ў двары, хто на лаўках, хто на траве. А Іван і Чэсь выйшлі да разамлелай публікі з баянам. Іван налаўчыўся выцягваць з таго, калісьці музычнага, інструмента пэўныя меладычныя, хоць і аднатонныя, гукі. Чэсь жа няблага спяваў напаўблатныя прыпеўкі беларускага паходжання. Цяпер я ўжо не магу прыпомніць ні аднаго куплета з тых прыпевак. Урэшце, цымус усяго быў не ў музыцы і не ў словах. Хлопцы-небаракі бралі нечым іншым. Абняўшы за плечы Івана, Чэсь зацягваў жаласлівым голасам пачатак куплета, Іван расцягваў задышлівы мех баяна і ўжо разам з Чэсем спяваў канцоўку... З іх вачэй цяклі слёзы... Так яны спявалі з падыгрываў, ходзячы ў абдымку па перыметры пляца, абгароджанага высокім глухім дашчаным плотам. Дзейства заварожвала... Я і яшчэ адзін мой калега-алкаголік, расчуліўшыся, далі ім пару-тройку цыгарэт, каб яны працягвалі далей. Іван з Чэсем задаволена запалілі і ўжо спявалі з цыгарэтамі ў зубах, якія трывала прыклейваліся да ніжняй губы і скурваліся да языка, пасля чаго са шкадаваннем неахвотна сплёўваліся. Спявалі паўтараючыся, пачыналі чатыры-пяць куплетаў, канчалі і вярталіся да пачатку... Я не магу пераказаць, што тварылася ў маёй душы, асуджанай на вось такі нечалавечы здзек! І таму я бессаромна плакаў разам з Іванам і Чэсем. Спявалі яны гадзіны тры... Гэта быў экстаз! Для мяне і майго супольніка па няшчасці. Для Івана з Чэсем гэта была работа, магчыма, больш прыемная, чым прыборка гальюноў, але работа. Ну, і прырабатак, вядома... Для ўсіх астатніх тое не мела аніякага дачынення. Кожны быў заняты сабою і неўпрыкмет развіваў свой талент... Знясілены душэўным перажываннем, я на той час мог быць залічаны паўнапраўным пацыентам чацвёртага шызафрэнічнага аддзялення. Дзякаваць Богу, гэта ўсё ж скончылася разам з цыгарэтамі і фізічнымі магчымасцямі Івана і Чэся...

У Чачні — іншае — кроў, варварства...

Там з песні ўсё пачыналася, тут з песняй усё канала...

З разумнымі ў нас — праблемы, з астатнімі — клопат...

Усё праходзіць... Застаюцца сляды... Але і яны затоптваюцца тым, што праходзіць следам...

Да нас у рэдакцыю прыйшла працаваць новая карэктарка, Мая Уладзіміраўна. Маладзечанскай гадоўлі жанчына. Мажная і, можа, ад таго мяккая па характары, дабрадушная. Распавядае, як нядаўна ездзіла-лятала да свайго сына ў Калумбію. Пра тамашні клімат, народ, мафію, наркотыкі... І так проста, звычайна і па-мацярынску душэўна тлумачыць нам гэта, быццам толькі што вярнулася з Маларыты... Мілая Мая Уладзіміраўна! Нездарма і прозвішча ў яе дзявочае — **Галубовіч...**

Усе рэчы ў прыродзе застаюцца такімі, якія яны ёсць, незалежна ад таго, як мы іх уяўляем і што пра іх думаем...

Калі раней літаратары пісалі стылем дыямата, то цяпер пішуць супраматам... Супраціўленне матэрыялу і матэрыяльнага ў сённяшняй літаратуры відавочнае.

Часта бывае няёмка і сарамотна за гасцінным сталом. Маць тваю, думаю, дажыўся да таго, што ўжо няма здароўя выпіць за ўласнае здароўе!

І зболенай плоццю і бяскрылай душой адчуваю, як няўтульна мне на гэтай зямлі. Здаецца, што я быў чужым, лішнім, нетутэйшым ад самага нараджэння...

Тут мяне не чакалі... Мяне чакаюць не тут, бо свет і святло сціскаюцца вакол да знікласці, а цемра ўжо называе маё імя такім знаёмым, родным мне, мацярынскім голасам...

Літаратура — гэта споведзь свядомых грэшнікаў перад людзьмі, але не перад Богам...

Пісаць можна бясконца, а чытаць — не...

